# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671




№ 20 (1514) ГОД XXXX БЕЛАСТОК 19 МАЯ 1985 г. ЦАНА 8 зл.



Прадукцыя ў Бельскай „Эльве“ ў асноўным заўтаматызаваная...

# ФАБРЫКА ЗА ГОРАДАМ

Сярод чыстага поля, побач дарогі з Бельска ў Нарву, не так даўно паявіліся фабрычныя будынкі. Гэта бельская „Эльва“ — фабрыка электрычных кандэнсатараў. У школе вучаць, што электрычны кандэнсатар — гэта прылада з металічных лістоў-абкладак, падзеленых тонкімі слаямі ізаляцыйнага матэрыялу, значыць, дыэлектрыка, здольная назапашваць і аддаваць электраэнергію. Практычна беручы, няма такой сучаснай прылады, у якой не прымяняліся б кандэнсатары. Найбольш іх у радыё- і тэлетэхніцы.

Зрабіць кандэнсатар, здавалася б, справа даволі простая. Даволі ўзяць алюмініевую стужку таўшчынёю ў тысячныя долі міліметра, скрунуць яе ў звіток разам са спецыяльнай паперай, насычанай адпаведным рэчывам, дачапіць да гэтага два дроцікі-канцоўкі — вось ужо і кандэнсатар. Гэтая і ёсць важная прылада, без якой не змаглі б мы слухаць радыё, захапляцца тэлевізійнымі фільмамі, лётаць на касмічныя арбіты, сачыць за бяспекай нашага неба і проста — жыць, карыстаючыся сучаснай тэхнікай.

І таму спатрэбілася цэлая, даволі прасторная фабрыка, з адмысловым, сучасным абсталяваннем, каб можна было масава і ў значнай ступені аўтаматычна рабіць гэтыя, высакаякасныя электрычныя (а дакладней — электралітычныя) кандэнсатары.

*

„Эльва“ — гэта чыстая прамысловасць. Яна не нішчыць, не атручвае і не брудзіць акружаючага асяроддзя. І таму гэта вялікі здабытак Бельска Падляшскага.

„Бацькам“ бельскай „Эльвы“ — цяперашні яе галоўны дырэктар, эканаміст па адукацыі, магістр Дзмітрый Ігнацюк. Калі вырашаўся лёс, быць ці не быць у Бельску Падляшскім гэтай фабрыцы, ён узначальваў гарадскую адміністрацыйную ўладу.

— Усё пачалося з таго, — гаворыць дырэктар Д. Ігнацюк, — што варшаўская фабрыка „Эльва-Унітра“, каб пашырыць вытворчасць радыёдэталяў, вымушана была знайсці месца для новай фабрыкі. Я даведаўся аб гэтым ад свайго сябра і земляка, даўнейшага бяльшчаніна, Юркі З., якога слова лічылася ў гэтай варшаўскай фабрыцы „Эльва-Унітра“.

З Бельскам за „Эльву“ змагалася Легніца. Перамог Бельск. Д. Ігнацюк не скрывае, што немалую ролю адыграла тут прыхільнае становішча земляка, гэтага бяльшчаніна Юркі З., але рашаючымі былі эканамічныя і грамадскія аргументы, хаця б тое, што з Бельска шмат бліжэй у Варшаву, чымсьці з Легніцы, Бельск Падляшскі, як горад тады ўжо звыш 20-тысячны, для правільнага свайго жыцця неадкладна патрабаваў нейкага буйнейшага прамысловага прадпрыемства, асабліва такога, у якім маглі б знайсці працу выпускнікі мясцовых школ, у першую чаргу маладыя жанчыны.

*

3 верасня 1979 г. першая група рабочых з Бельска накіравалася ў Варшаву для азнаямлення з новай для іх вытворчасцю. І гэтую дату можна лічыць пачаткам бельскай „Эльвы“. Першыя кандэнсатары паявіліся тут яшчэ ў канцы 1979 года. 30-асабовы калектыў, падзелены на дзве змены, прыступіў да сістэматычнай вытворчасці гэтых дэталяў, але яшчэ ў чужым памяшканні, бо пабудова

(Працяг на стар. 2)

## АДГАЛОСКІ

### НЕБЯСПЕКА УРБАНІЗАЦЫІ

*„Колькі памятае сябе чалавецтва, існаваў велізарны найгалоўнейшы мацярык. Імя яму — сялянства. І вось за нейкія дзесяцігоддзі — не ва ўсіх краінах аднолькава — мацярык гэты пачынае раптоўна знікаць... Учарашнія восемдзесят працэнтаў вясковага земляробчага насельніцтва робяцца сарака працэнтамі, а потым, глядзі, што і дваццаццю ці нават чатырма працэнтамі...*

*Людзі, пакідаючы гэты мацярык, усім самым дарагім, родным звязаны з тым мацярыком — самай мовай матчынай. Мова і той „мацярык“ звязаны.*

*...Не адзін толькі „ідыятызм“ быў у той вёсцы, а і велізарныя багацці народнага духоўнага, маральнага вопыту, паэтычнае моўнае багацце тым больш каштоўнае, што збіралася яно пакаленнямі ў самых жорсткіх умовах жыцця, гісторыі, несла ў сабе столькі чалавечага і чалавечнага.*

*...Велізарны мацярык сялянства беспаваротна змяншаецца, але нельга страціць час, непаўторна адказны, важны, нельга згубіць магчымасць (якой заўтра ўжо не будзе) — мы абавязаны зберагчы і перадаць далей духоўны, маральны, чалавечы вопыт, што тысячагоддзямі збіраўся тут, іменна на гэтым мацерыку.*

*Ёсць рэчы, па якія не вернешся назад, калі не забярэш іх у дарогу своечасова.*

*„Вясковая проза“ апошніх гадоў — гэта трывожны голас пра небяспеку, што чалавецтва можа стаць вельмі індустрыяльным, але і вельмі голым (духоўна, маральна), калі спешка тэхнічная не будзе суправаджацца маральным самазабеспячэннем...“*

Гэты трапныя думкі можна прачытаць у манаграфіі вядомага беларускага пісьменніка Алеся Адамовіча („Браму скарбаў сваіх адчыняю...“, Мн 1980 г.). Яны вельмі актуальны і для нас, польскіх — перад усім гарадскіх — беларусаў, якія з'яўляюцца нядаўнімі выхадцамі з вёсак. Хутка будзе нас больш у гарадах, чым на сельскай гаспадарцы.

Праблема захоўвання ўсяго каштоўнага, якое па традыцыі перадавалася з пакалення ў пакаленне ў вёсках, у нас складаная яшчэ і таму, што ў польскіх умовах цывілізацыйны прагрэс часта вядзе да дэнацыяналізацыі, да страты таго, што самае цэннае: беларускай мовы — асновы нацыянальнага існавання.

Беларускі народ, як і многія народы Сярэдня-Усходняй Еўропы адрадзіўся на базе сялянства. Яго інтэлігенцыя ў гарадскім, чыста польскім асяроддзі, хутка затрачвае сваю індывідуальнасць, асіміліруецца пераважна не пазней, як у другім пакаленні. Лепшыя ўмовы ў гэтых адносінах у гарадах Беласточчыны. Але ці мы іх там дастаткова выкарыстоўваем?

Вядома, што на стыкавых, пагранічных, нацыянальна змешаных тэрыторыях выступае наогул высокая канцэнтрацыя патрыятызму, які можа перараджацца ў нацыяналізм.

Парадокс у тым, што варожы беларускасці нацыяналізм можа выйсці на свет і з боку былых беларусаў. Неафіты, перараджэнцы часта асабліва шчыруюць. Напрыклад, практыка паказала, што найбольш варожа да польскага насельніцтва ў Вольным Горадзе Гданьску адносіліся тыя гданьскія немцы, якія былі згерманізаванымі палякамі, іх прозвішчы мелі польскае гучанне і паходжанне. („Kwartalnik Historyczny“, 1981, № 2, s. 531—532).

Праўду кажучы, я пакуль што не заўважыў гэтай хваробы сярод так званых праваслаўных палякаў. Яны адчуваюць яшчэ сваю сувязь з беларускасцю, але саромяцца прызнаць гэта, асабліва на пісьме (у анкеце).

А. Л.

НА МЯЖЫ

# АБ АДЗІНОЦТВЕ І ДЗЕЦЯХ (III)

Адна знаёмая беларуска з Варшавы многа разоў гаварыла мне, што яе сын адзначаецца выключна добрым сэрцам, што праяўляе вялікую клапатлівасць пра яе і мужа. Я, не ведаючы справы зблізку, не мог выказацца ў гэтай справе. Калі, аднак, пры чарговай сустрэчы гэта жанчына зноў пачала сваю песеньку і нават сказала, што сын болей клапоціцца пра яе, чым яна пра яго, я параіў ёй наступнае:

— Скажы свайму сыну сёння ці заўтра, што ты вельмі дрэнна адчуваеш сябе і пасля пачакай, ці ён цябе хоць раз спытае аб тваё самаадчуванне ці не. Па-другое, калі сын вернецца адвячоркам і схоча есці, скажы, што вячэра для ўсіх нарыхтавана і стаіць у кухні. Ежы аднак падрыхтуй крыху меней, як заўсёды рыхтуеш для вашай трохасабовай сям'і. Паглядзі пасля, колькі з той ежы сын з'есць і колькі пакіне для вас, бацькоў. Па-трэцяе, скажы аднаго дня, што ў гэтым месяцы ты заашчадзіла, скажам, дзесяць тысяч злотых, якія прызначаеш на вопратку і што дасі іх таму з членаў сям'і, хто найбольш патрабуе. Пры гэтым скажы, што ты сама вельмі патрабуеш грошы на такую ці іншую вопратку.

Знаёмая сказала, што прымяніць „тэст дабраты". Яна добра ведае: ва ўсіх трох выпадках сын дакажа, што ён з'яўляецца альтруістам і клапатлівым дзіцём.

Пасля двух тыдняў сустрэў я знаёмую. У яе быў моцна пануры твар. Калі мы разгаварыліся, пусціла нават слязу. Аказалася, што дабрадушны сын ані разу не спытаў пра яе здароўе пасля таго, як яна сказала аб моцным болі галавы. З падрыхтаванай ежы з'еў амаль усё, не клапоцячыся пра тое, што будуць есці бацькі. Пры гутарцы аб вопратцы горача даказваў матцы, што яе падранае на рукавах паліто можна зацыраваць і яшчэ насіць прынамсі два гады, а за тыя грошы трэба яму купіць адзідасы, бо ўсе яго сябры маюць, а ён не мае.

І яшчэ адзін аўтэнтычны прыклад. Мой знаёмы, жыхар Варшавы (чалавек гэты шырока вядомы чытачам „Нівы", аднак не назаву яго прозвішча, каб не зрабіць яму прыкрасці) быў запрошаны ўжо жанатым родным сынам у госці ў дзень важнага гадавога свята. Накупіўшы ласункаў для ўнука, пайшоў ён да дарагіх дзетак. Прыйшоўшы, застаў замкнёныя дзверы. У сувязі з тым, што ў дзвярах не было ніякай карткі, быў пераканаsuccessfully, што дзеці выйшлі на хвіліну і зараз вернуцца. Чакаў гадзіну дарэмна. Ніхто не паявіўся. Вярнуўся дахаты. Заўтра, пазаўтра і пасляпазаўтра сын не пазваніў. Занепакоены бацька ўрэшце навязаў з ім тэлефонны кантакт, пытаючы з трывогай:

— Што здарылася?

— Нічога не здарылася, — адказаў спакойна сын.

— А дзе ж вы дзеліся, вы ж мяне запрасілі ў госці?

— Так здарылася, — адказаў сын, — што на гадзіну перад тваім прыходам, запрасілі нас у госці знаёмыя, дык мы да іх пайшлі.

— Маглі вы пакінуць у дзвярах картку, каб я там не стаяў, як дурань?

— А неяк аб гэтым і не падумалі. Зрэшты, картку ў дзвярах пакідаць небяспечна, бо калі зладзеі толькі даведаюцца, што гаспадароў няма, дык зараз абкрадуць кватэру.

Гэтым бацькоўскае „следства" і скончылася. Ніякая санкцыя ў адносінах да сына прыменена не была, бо і якую ж санкцыю можа прымяніць стары бедалага?

**Алесь Барскі**

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### ЗАВОД НА КОЛАХ

Новы метад узвядзення вытворчых будынкаў, які амаль на палову скарачае расход арматуры і бетону на ўзвядзенне фундаментаў і каркасаў, асвоены ў Беларусі. Упершыню ў практыцы айчыннага прамысловага будаўніцтва каркас цэха запасных частак Беларускага аўтамабільнага завода ўзведзены з так званай дыяфрагмай жорсткасці. Ён абапіраецца на дзве лініі магутных калон, якія праходзяць праз цэнтр будынка — у выглядзе крыжавіны. А па перыметру корпуса плошчай больш за 20 тысяч квадратных метраў устаноўлены лёгкія апоры, якія ўспрымаюць толькі вертыкальныя нагрузкі. Такая перамена месцаў складаемых і дала значную суму зберажоных будаўнічых матэрыялаў.

Новую канструктыўную схему прапанавалі вучоныя Беларускага політэхнічнага інстытута, а таксама праектіроўшчыкі Масквы і Ленінграда. Яна адкрывае велізарныя рэзервы эканоміі металу і цэменту — да 35 працэнтаў на кожным вытворчым будынку.

Ужо сёлета ў рэспубліцы пачалося праектаванне і ўзвядзенне адразу некалькіх будынкаў з новай канструктыўнай схемай каркаса.

### СВЯТА ВУЛІЦЫ

Традыцыйнымі сталі святы вуліц у гарадскім пасёлку Дзятлава на Гродзеншчыне Вось і нядаўна тут прайшло свята вуліцы імя Героя Савецкага Саюза Яна Фогеля — камандзіра дывізіі, якая вызваляла Дзятлава ад фашысцкіх захопнікаў.

Да свята рыхтаваліся ўсе жыхары пасёлка. Бо імя Яна Фогеля добра вядома тут кожнаму. На месцы, дзе быў ранены герой, узвезены абеліск. І поле былой бітвы называецца „Полем Фогеля".

У той дзень, як і заўсёды ў святы, да падножжа абеліска былі ўскладзены вянкі. Пра жыццёвы шлях Яна Фогеля расказалі школьнікі, якія сабралі многа матэрыялаў пра легендарнага камандзіра дывізіі. Пра мінулае і сённяшні дзень Дзятлава, пра людзей, якія жывуць на вуліцы Фогеля, гаварылі мясцовыя краязнаўцы, дэпутаты пасялковага Савета, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый. А ўвечары ў Доме культуры адбыўся святочны канцэрт.

# ФАБРЫКА ЗА ГОРАДАМ

(Працяг са стар. 1)

фабрычных будынкаў бельскай „Эльвы" не была закончана.

— Цяпер працуе ў нас 500-520 чалавек, — інфармуе дырэктар Д. Ігнацюк. — Найбольш жанчын. Яны складаюць нейкія 70 працэнтаў усяго рабочага калектыву. Гэта ў асноўным жыхары Бельска і навакольных вёсак. Цяпер рабочае папаўненне рыхтуе для нашай фабрыкі прызаводская школа. Няма падстаў, каб наракаць на недахоп працаўнікоў. Мала хто ад нас уцякае. Наадварот, людзі просяцца на работу ў „Эльву", хаця мы нікога не заваблiваем высокай зарплатай. Яна ў нас, бадай што, ніжэй сярэдняй для прамысловых прадпрыемстваў у краіне. Затое людзям у нашай „Эльве" падабаецца чыстая праца і шмат якія сацыяльныя выгоды.

Без бельскай „Эльвы" не маглі б існаваць зараз шмат якія прадпрыемствы ў нашай краіне. Кандэнсатары з Бельска, так сказаць, вырываюцца яшчэ гарачыя. „Эльва" забяспечвае 60 працэнтаў патрэб на гэтыя вырабы. Гэта 63 мільёны штук у год за 650 мільёнаў злотых. 11 мільёнаў бельскіх кандэнсатараў паступае ў Савецкі Саюз, 2 мільёны — у іншыя краіны.

— З нашым усходнім суседам маем мы пяцігадовае пагадненне на пастаўку нашых кандэнсатараў, — кажа дырэктар Д. Ігнацюк.

*

Знаёмлюся з фабрыкай. Маім праваднікам майстар змены, намеснік кіраўніка па вытворчасці, магістр інжынер Яўгеній Бароўскі — выпускнік Беластоцкай політэхнікі, родам з падбельскай вёскі Відава. Гэта яго першая праца і першае прадпрыемства, у якім давеpылі яму ўжо адказную пасаду. Працу ў „Эльве" распачаў ён у 1981 годзе.

Для бельскай „Эльвы" гэта справа вельмі характэрная, што пераважную большасць і рабочага і кіраўнічага калектыву складаюць людзі маладыя. Для прыкладу: Станіслаў Блізнюк — брыгадзір, родам з вёскі Падбелле, які з гордасцю заяўляе, што ён выпускнік (з 1976 г.) Беларускага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча; Ян Перастрэт — таксама малады брыгадзір, са Старога Корніна, хаця ўжо абсталяваўся ў Бельску, Галена Пакорская, Людміла Чэх, Ірына Максімюк, Аліна Тарэнпюк, Валя Кардзюкевіч, Марыся Петручук, Эля Татарчук і дзесяткі іншых. Звыш 30 чалавек з вышэйшай адукацыяй знайшло сваё месца ў бельскай „Эльве". Адным словам, маладым тут перспектывы і абяцаючая будучыня.

Некаторыя з іх пасяліліся ў прызаводскіх жылых „блёках", іншыя атрымалі кватэры ў спулдзельчым будаўніцтве, а яшчэ іншыя абсталяваліся ў бацькоў, або чакаюць сваёй чаргі. Праблемы, як усюды, аднолькавыя, бо да ўласнай кватэры шлях вельмі цяжкі.

Сацыяльная служба фабрыкі стараецца па меры магчымасці крыху аблегчыць гэтыя клопаты. На месцы ёсць заводская сталовая. Абед каштуе ўсяго 45 злотых. Абед паўнавартасны, з трох страваў ды смачны.

*

Вечарам у гэтай жа прасторнай сталовай фабрычны гурток Таварыства польска-савецкай дружбы, якім у „Эльве" кіруе Барбара Врублеўская, наладзіў агляд савецкай песні. Як задушэўна, прыгожа і сардэчна плылі тут рускія, украінскія і беларускія, а таксама свае, мясцовыя, народныя песні!

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



Гурток ТППР у Бельскай „Эльве" наладзіў агляд савецкай песні. Выступаюць Ніна Кручкоўская, Анатоль Нічыпарук і Валянціна Талочка.

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

Пад вясну Юдыта ўпусціла курыцу ў школу. Нічога страшнага — школа ж сельскагаспадарчая. Пахадзіла курка па калідоры, там-сям падзяўбла, не напаскудзіла і выйшла цераз адчыненыя дзверы. Дзеці пасмяяліся. Зазваніў званок...

Дырэктар школы — вытанчаная і сур'ёзная — паставіла цэлы другі клас пад сцяною. Усмешкі застылі.

— Хто сюды яе прывалок?!

Маўчанне. За вокнамі красавік, паветра дрыжыць ад вясенніх воклікаў.

— Ах так, ніхто не прызнаецца! Я вам, хам'ё, сарву ўсім стыпендыі, яшчэ пабачыце! Звалакуцца ў школу, і не выхаваеш, асталопаў. Да гною, чаго вам тут. Найгоршы клас, прыдуркі! Загадваю прывясці ў школу бацькоў. Пайшлі!

Зараз жа Юдыта пабегла за ёю ў канцылярыю, прызнацца.

— Што такое?! Прашу выйсці! Не буду я, я з табою больш на гэтую тэму гаварыць! Вон! Дзверы зачыняюцца з таго боку!

*

**А:** — Няма чаго і гаварыць аб гэтым. А пісаць тым больш. Лепей не чапаць нікога. Я хутчэй мушу зрабіць дыплом, а то яшчэ стануць поперак, як бывала не раз, і чалавек адразу за бортам. „Калі ласка, забірай свае паперы. Будзе лепш, як сам пойдзеш адразу да гною". Ну і чалавек ідзе да таго „гною", бо куды мае ісці. Гэтае слова вельмі часта чуецца ў нас. Лічаць нас за абы-што. і кажуць гэта проста ў вочы. Праўда, мала ў нас выдатнікаў, але мы працуем, бы тыя валы. Прыедзеш са школы — і адразу ў поле. Усе спяць, а ты ўрокі рыхтуеш. Раніцай падой кароў і да аўтобуса. Пакуль у школе прачухаешся, дойдзеш да сябе... Зімою менш работы, але ўсё поцемкі...

**Б:** — Гэта праўда, што трапляюцца ў нас людзі, якія спатыкаліся ў іншых школах ці на экзаменах. Трэ было дзесь зачапіцца — і прыйшлі сюды. Але найбольш тут такіх, якіх чакае бацькоўская гаспадарка. Мы ж — наследнікі. Я сам вельмі сур'ёзна думаю аб тым, каб памагчы сваім бацькам. Старэйшыя — хто ў арміі, хто на пасадзе ў горадзе. Я астаўся. Можа і мне хочацца паехаць куды... Я цікаўлюся электронікай... А гаспадарку таксама люблю, вёску, жывёлу, механізацыю. Мне ў вёсцы падабаецца, людзі таксама. Але мала ў нас маладых, асабліва дзяўчат. У школе дзяўчаты ёсць, і гэта радасць. Можа сабе жонку прыдбаю. што?..




**В:** — Мала нас, вясковых, а ў школе некаторыя настаўнікі, быццам бы хацелі нас пераканаць, што мы — горшы гатунак людзей, моладзі. Праўда, часу нам не хапае на штодзённае кіно, кніжкі, дарагое адзенне. Я даношваю па сёстрах, перашываю. Бацькі адымаюць ад вуснаў, каб на дзяцей хапіла. У нас не пераліваецца, і таму я сюды прыйшла вучыцца, каб хутчэй стаць на свае ногі. Магла ў ліцэй, вучылася вельмі добра бацькі нічому не пярэчылі. Але розум свой маю. Усё ж цярпення мне не хапае. Але... яшчэ год, яшчэ толькі адзін, і пакіну гэты храм. Пайду „да гною", як яны хочуць. Карміць іх буду, бо я — селянін. Няхай падавяцца, не пашкадую.

*

У гэтай школе і ў славутым класе „ад курэй" мае прыемнасць вучыцца мая малодшая сястра. Па загаду пані дырэктар наша мама павінна была прыехаць у школу і пагаварыць з класным кіраўніком. Выслала мяне — сама не магла ўзяць свабоднага дня на рабоце. Я якраз была ў гэтым горадзе і паехала ў школу. Класнага кіраўніка не было, і падалася я да пані дырэктар.

Пра „курыцу ў калідоры" не ўспаміналa, хаця мяне рупіла запытацца. Цікавіла вельмі мяне пачуццё гумару пані дырэктар. Перад тым як заглянуць у журнал, пані дырэктар пачала гаварыць пра тое, як вучні дрэнна вучацца. Увогуле яны да нічога не здатныя, а тым часам настаўніцы аглядалі мяне ад галавы да ног, абутых у „піянерскія" чаравікі.

Паглядзела дырэктар у журнал, замоўкла, бо ўгледзела Алінчыны чацвёркі.

— Ну вось, дрэнна, дрэнна вучыцца. І яшчэ пыскатая, не люблю я такіх малалетаў, якія маюць свае погляды. Кончыць школу, няхай думае, што хоча. Дыскутаваць надумала з настаўнікамі, і яшчэ іншых за сабою цягне... Ооо, вось двойка! — узрадавалася яна.

— А за што? Тут літарка „С" пры ацэнцы. Што яна значыць?

— Не ведаю. Што? А што цябе гэта датычыць? Стаіць, і ўсё! Настаўнік паставіў, ён і ведае за што. А чаго табе?

— Я сама па прафесіі настаўніца, то і цікавяць мяне вашыя дыдактычныя і выхаваўчыя метады.

Падзякавала я і выйшла. Яшчэ дзвярэй не зачыніла, чую: — Бач яе, вёха, усюды пхаецца. Дзецям інтэлігенцыі пункты ў вышэйшую школу забрала! Не звядзеш...

**Міра Лукша**

## ПАЭТЫЧНЫЯ СУСТРЭЧЫ

Ад 22 да 24 красавіка б.г., у сувязі з Днямі савецкай культуры, Алесь Барскі сустрэўся з вучнямі, настаўнікамі і моладдзю ў Чыжах, Клейніках, Ласінцы, Крыўцы, Нарве, Трасцянцы, Белавежы і Гайнаўцы. Апрача гэтых сустрэч А. Барскі сустрэўся з вучнямі Ляснога тэхнікума ў Белавежы, у якім вучыцца моладзь з усёй Польшчы.

У многіх з названых мясцовасцей ужо даўно не было сустрэчаў з беларускімі пісьменнікамі і гэтыя сустрэчы былі вельмі цёплымі. Апрача азнаямлення з тыповымі творчымі, літаратурнымі справамі, паэт шырока расказваў аб сваіх падарожжах па Савецкім Саюзе, ЗША, Англіі. Закрануў таксама праблемы, звязаныя з беларускім музеем, з дзейнасцю Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Прысутныя з зацікаўленнем слухалі паэта, ставілі шматлікія пытанні і абдароўвалі кветкамі.

У часе сустрэч было прадана больш за 300 экземпляраў зборніка Алеся Барскага „Блізкасць далёкага".

**Б. В.**



Драматычны тэатр імя А. Вянгеркі ў Беластоку. Фота М. Гайдука.

## ВІКТАР ШВЕД У ПАШКОЎШЧЫНЕ

16 красавіка быў трэцім днём Пасхі. У пачатковай школе ў Пашкоўшчыне нармальны дзень працы. Вучні і настаўнікі ў камплекце. У час перапынку можам пабачыць традыцыйныя вялікодныя яйкі. Некаторыя вучні прынеслі ў школу ўсе „выйграныя", каб пахваліцца сябрам і настаўнікам.

Усе чакаем на прыезд дарагога госця — аўтара „Барады", „Мышы ў збане" ці папулярнай песні „Беласточчына". Вядома, кожны з нас хацеў пачуць тое, што любіць, з вуснаў самога аўтара. Настаўнік не заўсёды патрапіць перадаць вучням думку аўтара.

На запрашэнне гміннага аддзела БГКТ у Орлі прыбыў да нас Віктар Швед. Пасля апладысментаў і прывітання займае месца ля стала з плеценай з саломкі талеркай з маляванымі яйкамі — сімвалам Вялікадня.

Віктар Швед сардэчна звяртаецца да „малых беларусаў". Прадстаўляе свае „жыццёвыя сцежкі" ад дзяцінства да 60-годдзя. Пасля гаворыць аб літаратурнай дзейнасці. Дзеліць яе на дзве часткі: першую прысвячае настаўнікам, другую — вучням. Гучаць вершы, прысвечаныя бацькаўшчыне, роднай мове. Верш „Хто мы?" прымушае многіх задумацца над адказам на гэтае пытанне. Праблема чалавечнасці, пытанні пра сэнс жыцця і любоўная лірыка заканчвае першую частку. У другой частцы Швед з вялікім майстэрствам чытае вершы для дзяцей і аб дзецях.

Не кожны настаўнік і не кожны паэт патрапіць так зацікавіць вучняў, як зрабіў гэта Швед. Тое, што ён гаварыў і чытаў, выклікала захапленне. Сведчыла аб гэтым абсалютная цішыня, з адкрытымі роцікамі, дзіцячыя галоўкі, паднятыя ўгару. З вялікай увагай былі прыняты вершы з „Маскоўскага цыкла". Аб зацікаўленні сустрэчай сведчылі пытанні вучняў. На заканчэнне была падзяка за цудоўныя хвіліны спаткання з родным словам і просьба часцей заглядаць у пашкоўскую школу.

Віктар Швед не адмовіў пажаданням настаўніц і ў настаўніцкай прачытаў некалькі вершаў аб... каханні.

У гэты ж дзень Віктар Швед правёў сустрэчы ў школах у Орлі і Малінніках.

**Ян Добаш**

## „ВАСІЛЁЧКІ" У МОНЬКАХ

Бельскі хор „Васілёчкі" 25.IV. 1985 г. выступіў з канцэртам у Моньках. Было гэта на ўрачыстай акадэміі з нагоды 40-й гадавіны падпісання дагавору дружбы паміж СССР і Польшчай.

Жыхары Монькаў сардэчна прынялі наш канцэрт. Былі бурлівыя апладысменты і кветкі.

Усіх ахвотных спяваць родныя песні запрашаем у кожны аўторак у Бельскі дом культуры а гадз. 18-20. Па 2-3 рэпетыцыях можна стаць членам нашага хору.

**Іван Кірызюк**

## Адгалоскі

# ДАДАЦЬ ДРОЖДЖЫ

Напісаць — не напісаць? Вось дылема, якая стаіць перада мной. Вядома, што Алесь Барскі — то не абы хто. Чытачы „Нівы“ ведаюць, хто Алесь Барскі. І таму можна накрычаць на мяне, што чапаю, тузаю святасць. Выбачайце, інакш не магу. Я таксама А. Барскага шаную. Але яго погляды?

За беларускасць і беларусаў Барскі стаіць сцяной. І гэта для справы найважнейшае. З другога боку Алесь Барскі прыняў, для мяне дзіўную, звычку не адказваць на палемічныя галасы. Затым — гаварыць з ім немагчыма, як і немагчыма гутарыць з тэлебачаннем.

А ў чым справа? У тым, што Барскі ўпарта лае беларусаў за іх баязлівасць быць беларусамі, за тое, што яны баяцца выяўляць сваю нацыянальнасць, што нават, калі іх выберуць паслом, — яны забываюцца, што беларусы і ў справе беларускай маўчаць.

У гэтакім вывадзе ёсць, праўду кажучы, некалькі фальшывых думак. Але па чарзе.

Усім вядома, што кандыдатаў на паслоў рэкамендавалі калісьці тры саюзныя партыі. А цяпер у прапановах новай выбарчай ардынацыі стаіць такая прапанова, што кандыдатаў у паслы тыпуюць палітычныя арганізацыі.

Цяпер, пасля адновы ў агульнаграмадскім жыцці, беларусы пытаюць, чаму няма нашых прадстаўнікоў у радах нарадовых і ў Сейме. Слова „нашых“ трэба разумець, што з аддзельнай выбарчай праграмай. А гэта ўжо кранае палітыку. А там, дзе штосьці кранае палітыку, — справа тонкая і адказ нялёгкі, як яно ў сапраўднасці павінна быць.

А можа БГКТ калісьці і выступаў з ініцыятывай аддзельнага прадстаўніцтва беларусаў у Сейме, дык чаму А. Барскі аб тым ані словам не ўспамінае, толькі грыміць, што беларусы мяккія, як цеста? Дадаць бы да гэтага цеста дрожджы — няхай пачне падыходзіць.

Прапаведнікам быць не так цяжка, цяжэй быць рэалістам, не адарваным ад рэчаіснасці.

**М. Кунтэль**

# ВАСІЛЮ ПЕТРУЧУКУ

Субота. У 18 гадзін уключаю радыёпрыёмнік і слухаю беларускую перадачу. Чую просьбу Ваські да міністра і думаю, што яна ўжо крышку не ў час, але і ў час.

Бо трэба сказаць, што пасля апошняга павышэння цэн і частковай адмены картачак некаторыя людзі прынялі гэта нармальна, але большасць усё ж пабегла хутка ў краму, а і хоць даражэй, але куплялі па мяшку мукі і цягнулі ў хату. Прыйшла пятніца і мукі ў краму зноў навезлі ўдосталь. Людзі сунялiся і перасталі выкупляць тавар.

Праўду адну Петручук сказаў: у нас некаторыя могуць ужо адкрываць прыватныя крамы, столькі тавару панавалакалі. Я сам многа такіх ведаю.

Ты, сябра Васіль, жывеш у горадзе, маеш крыху больш вольнага часу, чым я. У мяне, брат, ці субота, ці нядзеля — кароўка і парсюк есці хочуць. Давай, аднак, кінем гэта. Возьмемся за іншую тэму. Бачыш, не сунімаюцца недаверкі, нелегальныя сходкі робяць. Яны не бачылі бяды і вайны і хочуць рабіць тут другую Японію. А трэба сказаць, што тэхніка ў нас у многім лепшая, чым у Японіі, бо нашы інжынеры ўжо збожжавыя камбайны ўсадзілі ў бутэльку — у Японіі гэтага не могуць.

Мы з табой, аднак, не з баязлівых, перажылі не такую бяду і шчыра стаім за нашу народную ўладу супраць усялякіх рэвідэнтаў.

**М. Лук'янюк**



Такімі фурамі вазілі ў міжваенны перыяд паноў па пушчы. На здымку: Спяпан Краўчук у святочным касцюме.

# БЕЛАВЕЖА ПАЎСТАГОДДЗЯ НАЗАД

Аднойчы ў зімовы вечар згаварыўся я з Міхалам Шпаковічам пра жыццё ў даваеннай Белавежы. М. Шпаковіч многа чаго цікавага мне расказаў. Некаторымі весткамі хацеў бы я сёння падзяліцца з чытачамі „Нівы“.

Гміна Белавежа перад II сусветнай вайной налічвала звыш 10 тысяч жыхароў (зараз толькі звыш 3 тыс.). Карэннае насельніцтва складала чацвёртую або нават і пятую яго частку. Займалася яно працай у полі і ў лесе. Прычынай вялікага напльіву людзей з усяе Польшчы ў Белавежу была большая магчымасць знайсці тут працу і то такую, на якой можна было добра зарабіць.

У міжваенны перыяд у Белавежы знаходзіліся Дырэкцыя дзяржаўных лясоў, тры надлясніцтвы, тры тартакі, Нацыянальны парк, Пушчанскі прыродазнаўчы музей, біялагічная лабараторыя, пачатковая школа, школа ляснікоў, інтэрнат, пошта, пастарунак паліцыі, амбулаторыя, аптэка, бібліятэка, кіно, два рэстараны, некалькі сталовых для рабочых, шмат спажывецкіх і іншага тыпу крамаў, некалькі каўбасных, тры пякарні. Мястэчка мела чыгуначную і аўтобусную (ад 1934 г.) сувязь. Дзейнічала ў ім звыш 20 грамадскіх, прафсаюзных арганізацый і палітычных партыяў.

Наплываючае насельніцтва, вядома, мусіла дзесьці жыць. Справу гэтую вырашылі такім чынам. Простыя рабочыя куплялі, а найчасцей толькі арандавалі, у жыхароў невялікі кусочак пляцу і будавалі на ім свой домік, як правіла з адпадкаў, набытых у тартаках. Служачыя наймалі ў гаспадароў адзін або два пакоі. плацілі 60-70 зл. у месяц. Для гаспадароў гэта быў добры даход. Настолькі добры, што многія дабудоўвалі ззаду сваіх дамоў якіясьці прыстаўкі і там самі жылі, а „пакоі“ прызначалі для найму. Сярод наплываючага насельніцтва вялікую частку складалі яўрэі. Яны, вядома, займаліся перш за ўсё гандлем, рамяством і паслугамі. Таму кожны трэці або чацвёрты дом у Белавежы быў адначасова яўрэйскай крамай. Найбольш крамаў было на вуглу сённяшніх вуліц Вашкевіча і Спартовай. Называлі іх „будкамі“.

Сельская гаспадарка ў міжваенны час была слабая. Сяляне звычайна мелі па 1-2 га зямлі. Сеялі жыта, проса (якога сёння ўжо не ўбачыш, таксама як канопля), лён, часам пшаніцу, ячмень, авёс. Садзілі бульбу. Не было машын да працы ў полі. Збожжа жалі сярпом. Не ведалі штучнага ўгнаення. Кожны селянін трымаў каня, карову, свінні, куры, часам гусі або качкі. У свабодны час ад працы ў полі займаліся вывазкай драўніны з лесу. Заробкі былі добрыя. З коньмі можна было за дзень зарабіць найбольш 8-10 зл., звычайна 3-4 зл. У тартаках найлепшыя „выцягвалі“ па 5-7 зл. Звычайная „днёўка“ для лепшых працаўнікоў складала 2 зл., для горшых 1,20 зл. Да працы ў лесе выязджалі яшчэ ўпоцемку, каля 6-й гадзіны. Вярталіся таксама за цямна.

Ежу нарыхтоўвалі найчасцей зранку на ўвесь дзень. Варылі

**СЛАВУТЫЯ БЕЛАРУСЫ**

# СЯБАР КАБЗАРА НА ССЫЛЦЫ

У гады ссылкі ў Тараса Шаўчэнкі не было лепшага сябра, чым Браніслаў Залескі. Як і Т. Шаўчэнка, ён быў мастаком і пісьменнікам. Разам яны рабілі замалёўкі пейзажаў Прыкаспія, з ім дзяліўся паэт сваім смуткам, з ім перапісваўся потым. Б. Залескі, вярнуўшыся з ссылкі, прадаваў карціны паэта, пасылаў яму пэндзлі і фарбы. Перапіска сяброў з'яўляецца каштоўнай крыніцай да вывучэння біяграфіі Т. Шаўчэнкі.

Звесткі пра Б. Залескага мізэрныя. Шаўчэнказнаўца Л. Хінкулаў пісаў, што імя гэтага „асабліва блізкага Шаўчэнку ў ссылцы чалавека (...), не знайсці ў мнагатомных старых і новых рускіх энцыклапедыях, ні ў агульнадаступнай мемуарнай літаратуры“.

Мы пачалі шукаць матэрыялы пра Б. Залескага ў айчынных архівах і замежных выданнях і паводле іх дадзеных змаглі аднавіць яго біяграфію.

Нарадзіўся Браніслаў Залескі ў небагатай дваранскай сям'і ў Беларусі, у мястэчку Вызна (цяпер пасёлак Чырвоная Слабада Мінскай вобласці), 9 чэрвеня 1820 года. Ён паступіў вучыцца ў Дэрпцкі (цяпер Тартускі) універсітэт. Тут уступіў у проціўрадавую арганізацыю.

Улады разграмілі студэнцкі гурток. Б. Залескага трымалі пад арыштам у 1838-1841 гадах, а затым выслалі пад нагляд паліцыі ў Чарнігаў. Праз чатыры гады яму дазволілі вярнуцца ў родныя мясціны. Ён не адышоў ад падпольнай дзейнасці і быў зноў арыштаваны ў 1846 годзе. Б. Залескага паслалі служыць радавым у Арэнбургскі корпус. Праз два гады яго накіравалі ў Аральскую экспедыцыю як добрага малявальшчыка „ў дапамогу радавому Шаўчэнку для адздзелкі гідраграфічных відаў“. Разам з Т. Шаўчэнкам Б. Залескі працаваў летам 1851 года ў экспедыцыі, якая шукала каменны вугаль на паўвостраве Мангышлак.

У 1853 годзе Б. Залескі ўдзельнічаў у паходзе царскіх войск на какандскую крэпасць Акмячэць (цяпер горад Кзыл-Арда). За храбрасць пры штурме Акмячэці Залескага зрабілі прапаршчыкам.

Пасля акмячэцкага паходу Б. Залескі атрымаў назначэнне на паўночны Урал на Багаслоўскі завод і Тур'інскія капальні. Толькі ў 1856 годзе Б. Залескаму дазволілі выйсці ў адстаўку і вярнуцца на радзіму. Там ён прыняў удзел у падрыхтоўцы рэформы па адмене прыгоннага права, затым выехаў за мяжу, каб назаўсёды застацца ў эміграцыі. У час паўстання 1863 года ён спрабаваў пераслаць суайчыннікам-паўстанцам зброю, але спроба аказалася няўдалай.

Б. Залескі пасяліўся ў Парыжы. Тут ён рэдагаваў „Штогоднік“ Гісторыка-літаратурнага таварыства эмігрантаў з Польшчы, Беларусі і Літвы, у якім змяшчаў артыкулы пра Казах-

фасолю з зацеркай або з купцёй, боршч, бульбу з дзежным квасам і з цыбуляй. У нядзелю пяклі бабку з бульбы. Прытрымліваліся ўсялякіх постаў. У пост елі бульбу з льняным семем або алеем з яго, таксама бульбу з лякам ад селядцоў, капусту, грыбы, кашу з проса. Варылі кісель з аўса. Булкі пяклі 4 разы ў год, на найважнейшыя святы. Дзецям, якія хацелі, каб бацькі купілі ім булачку ў яўрэя, гаварылі, каб адбіць ім ахвоту, што яўрэі мажуць булкі смаркачамі. Мяса столькі, як цяпер, не елі. Калолі пераважна аднаго вепрука на ўвесь год. Мяса салілі і захоўвалі ў ражках. Смятану, яйкі, цяляты, звычайна, прадавалі яўрэям. Куплялі за тое ў іх розныя прылады (найчасцей кухонныя), патрэбныя ў хатняй гаспадарцы. Пілі чорную каву (цыкорыю). Хлеб пяклі на цэлы тыдзень.

Матэрыял на вопратку ткалі з лёну самі. Абутак (які каштаваў 10-12 зл.) абсталёўвалі ў шаўцоў, але звычайна хадзілі ў лапцях або ў якім-небудзь самаробным. Лепшы абутак насілі ў нядзелю і святы.

Мужчыны, апрача працы пры вывозцы драўніны, стараліся зарабіць таксама, возячы з чыгуначнай станцыі ў Свіцкі дом усялякіх паноў, вучоных, якія часта прыязджалі ў Белавежу. Калі была патрэба, вазілі іх таксама па пушчы. Наймаліся кожнага году ў нагонку падчас паляванняў, якія ладзіў прэзідэнт Масціцкі.

Пенсіі ў міжваенны перыяд ніхто не выпрацаваў. Закоратка існавала дзяржава, а работу за цара не бралі пад увагу.

У 30-ыя гады цэнтнер збожжа каштаваў 12 зл, кілаграм цукру — 1,20 зл., адна папяроса — 2-3 гр., пачка табакі — 6 зл., карова — 120 зл., пазней толькі — 100., веласіпед — 120 зл., пераезд цягніком у Гайнаўку 1,20 зл. і таму нічога дзіўнага, што, напр. Пшыбыш, які працаваў у Гайнаўцы, быў вымушаны ездзіць на работу веласіпедам.

П. Байко

Фота Я. Е. Карпінскага

## На мак і каноплі—патрэбны дазвол!

Сейм ПНР 31 студзеня 1985 года прыняў пастанову аб нарkаманіі. Яна (арт. 10, пункт 2) уводзіць суровыя абмежаванні ў вырошчванні маку і канапель. Абмежаванні абавязваюць ад 1 красавіка 1985 года. Мак і каноплі нельга вырошчваць без спецыяльнага дазволу гміннай улады. На ўласныя патрэбы кожны селянін можа пасеяць не больш, чымсьці 20 квадратных метраў маку. Гэта загончык, прыкладна, шырынёй у 2 метры і даўжынёю ў 10 метраў. Але і на гэта трэба мець дазвол ад гміннай сельскагаспадарчай службы.

Хто хацеў бы спецыялізавацца ў вырошчванні маку і канапель, той абавязаны падпісаць кантрактацыйную ўмову або з „Гербаполем" або са спулдзельняй „Сялянская самапомач". Тады можна сеяць і больш, чымсьці 20 кв. м гэтай расліны.

У кожным, аднак, выпадку селянін абавязаны макавую салому або даставіць указанай установе і прадаць яе па дзяржаўнай цане, або спаліць яе ў сябе на месцы.

За непадпарадкаванне гэтым правілам пагражае пакаранне высокім грашовым штрафам або турмой да 2 гадоў.

Гэтыя суровыя правілы па вырошчванню маку і канапель падыктаваны неабходнасцю абмежаваць доступ да сыравіны, з якой дамарослыя вытворцы вельмі лёгка ды даволі масава прадукуюць грозную атруту: адурманьваючыя наркотыкі.

Спрадвеку мак быў аздобай сялянскіх агародчыкаў. Нашы бабулькі макавай настойкай часам паілі сваіх дзяцей, каб яны былі спакайнейшыя. Цяпер, на жаль, знайшліся лепшыя спецыялісты ад гэтых бабулек і вынайшлі рэцэпты, як проста з маку і канапель рабіць наркатычны „кампот", які даводзіць да смерці маладых людзей. Таму абмежаванне ў вырошчванні гэтых раслін стала проста неабходнасцю. У гэтай справе беластоцкі ваявода таксама выдаў спецыяльны загад падначаленым службам. (вр)



Хто каго.

Фота В. Рудчыка.




## ВЫХОДЖУ НА ПРЫВОЛЛЕ

**Бурлівыя перамены пачатку васьмідзесятых гадоў выклікалі ў нашым грамадстве своеасаблівы настрой. Многія з нас сталі на раздарожжы і пыталі сябе, куды пайсці, як паступаць далей?**

**Я таксама не ведаў, што рабіць. Аб гэтым менавіта я пісаў у сваім дыскусійным артыкуле ў „Ніве" ад 15 мая 1983 г. „На раздарожжы".**

**Канфлікты на рабоце, бюракратычнае вырашэнне праблем, а перад усім абыякавасць да чалавека пераконвалі мяне, што „няма праўды на свеце".**

**Я апусціў рукі, замкнуўся ў чатырох сценах сваёй кватэры. Апрача работы, нішто і ніхто мяне не цікавіў. Стаў глухім і сляпым. Перастаў пісаць у „Ніву". Аднак не перарваў кантактаў з рэдакцыяй.**

Калі здавалася ўжо, што няма ў мяне нікога, што патрацію я сэнс жыцця, кожная новая сустрэча ў „Ніве" і размовы з журналістамі, пачыналі пакідаць у маім сэрцы іскрынку надзеі і аптымізму. Назіраў за падзеямі, што разыгрываліся на чаромхаўскай чыгуначнай сцэне.

Даўней цяжка было разабрацца ў блытаніне штодзённых спраў. Усе „разрубы" і канфлікты на рабоце прыпісваліся „справе маіх рук". Зараз усё па крысе пачало праясняцца. Зразумелі гэта начальнікі, зразумелі таксама мае калегі.

Пачынаю па крысе знаходзіць сваё страчанае месца ў асяроддзі.

Ул. Сідарук

П. С. Гэтай публікацыяй узнаўляю сваю карэспандэнцкую дзейнасць.

стан. Памёр Б. Залескі ў 1880 годзе.

У альбоме пейзажаў Казахстана, выдадзеным нашым земляком у Парыжы, было змешчана многа гравюр. Гэта адно з першых адлюстраванняў прыроды Казахстана, даступных заходнееўрапейскім чытачам. Гравюры суправаджаліся тлумачэннямі аўтара.

Радкі, якія напісаў Б. Залескі пра казахаў, сагрэтыя цяплом сэрца гуманіста: „Казах з даўніх пакаленняў прывык да каня і зросся з ім, лічыць яго вянцом стварэння, (...) корміцца малаком і мясам, адчайна любіць скачкі і паездкі, сярод статкаў бараноў і табуноў коней ён знаходзіць задавальненне ўсіх сваіх патрэб; захаванне ці набыццё гэтых статкаў і табуноў складае галоўны яго клопат. Выдатны пастух, які добра ведае жывёлагадоўлю, прысвячае ёй большую частку сваіх дзён. З гэтым звязаны ўвесь патрыярхальны бок яго жыцця і характару: вялікая гасціннасць, амаль дзіцячая прастата, захаванне сваіх паданняў і звычаяў, веданне прыроды і сапраўды цесная сувязь з ёй".

Пільнае вока ссыльнага рэвалюцыянера бачыла класавае расслаенне сярод казахаў. Акрамя „белай косці" — біяў, сярод іх былі і бедныя — „байгушы". Б. Залескі добра заўважыў і двудушную палітыку казахскіх баеў, біяў і старэйшын, якія, нібы абараняючы інтарэсы бедната ад замахаў царскай адміністрацыі, на самай справе прыгняталі сваіх супляменнікаў, добра ўжываючыся з царскімі ўладамі. Царызм падкупляў вярхушку, узнагароджваў грашамі, дарыў багатыя падарункі, прысвойваў афіцэрскія і нават генеральскія званні.

Падарожнік адзначыў, што ў адрозненне ад многіх іншых народаў Усходу казахі ўспрынялі іслам павярхоўна і таму жанчыны ў іх больш свабодныя, чым у аседлых мусульманскіх народаў, што ў казахаў няма гарэмаў. У сувязі з вялікім калымам і неабходнасцю наладжваць багатае вясельнае свята („той") мнагажонства было прынята толькі ў багатых казахаў.

Нягледзячы на больш незалежнае становішча казашак, у параўнанні, скажам, з узбечкамі, на іх плячах ляжала ўся хатняя гаспадарка: „Яны раніцай павінны выдаіць авечак і кабыл, самі гатуюць ежу, збіваюць кумыс, ткуць сукно і палатно для адзення, катаюць лямец, нават устанаўліваюць кібіткі (...) Яны заўсёды многа працуюць, таму хутка старэюць..."

Высока ацэньваў Б. Залескі паэтычнасць і музыкальнасць казахаў: „Кіргіз (казах) любіць музыку і слухае яе ўважліва, пры яздзе ў стэпу ён любіць спяваць нізкім галасам, але заўсёды на адной ноце". У іншым месцы ён пісаў: „Вандроўныя спевакі (уланчы), якія ездзяць па стэпу, усюды паважаныя людзі; яны вельмі лёгка выклікаюць у слухачоў гарачыя апладысменты і збіраюць шматлікія падарункі". Адзін са спевакоў — „байгуш" Мурзакай разбагацеў, дзякуючы свайму таленту.

Б. Залескі прывёў узоры народных казак, а адна з іх праз тры гады пасля яе апублікавання Б. Залескім была перакладзена на рускую мову і змешчана ў кнізе „Нарысы Сярэдняй Азіі" вядомага венгерскага падарожніка па Азіі А. Вамберы.

Нямала месца ў работах В. Залескага адведзена апісанню магільных камянёў, маўзалеяў і іншых археалагічных помнікаў Казахстана. Не менш цікавыя звесткі пра прыроду Урала і жыццё башкірскага народа прывёў наш ссыльны зямляк у пісьмах да Р. Сабаньскай.

У сваіх літаратурных запісах і мастацкіх замалёўках з натуры ссыльны рэвалюцыянер з Беларусі ўпершыню знаёміў і землякоў, і заходнееўрапейскіх чытачоў з жыццём Казахстана і Башкірыі. Яго работы ўпрыгожаны унікальнымі гравюрамі, на якіх адлюстраваны карціны народнага быту і характэрныя мясціны гэтых краёў. Таленавіты мастак і літаратар, Б. Залескі пакінуў некалькі апісанняў Казахстана і Прыуралля, якія і сёння не страцілі сваёй актуальнасці.

В. Грыцкевіч

У дапамогу настаўнікам беларускай мовы

## ПРЫКЛАДНЫ КАНСПЕКТ УРОКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў ДРУГІМ КЛАСЕ ПАЧАТКОВАЙ ШКОЛЫ. УРОК ПРЫСВЕЧАНЫ ДНЮ МАЦІ — 26 МАЯ.

Тэма: Мама — самы дарагі і блізкі чалавек.

Дыдактычная мэта: Знаёмім вучняў з вершамі В. Вярбы „Матуліны рукі" і В. Шымука „Маці".

Выхаваўчая мэта: Шануем і памагаем у дамашніх занятках сваёй маці.

Матэрыял да ўрока: Верш В. Вярбы „Матуліны рукі", В. Шымука „Маці" (Зорка, 27 мая 1984 г.), малюнкі ці ілюстрацыі з розных часопісаў аб маці.

1. Прачытаць верш „Матуліны рукі" і растлумачыць, чаму ён так называецца.

2. Разгледзець малюнкі, што ў іх спадабалася. Чаму?

3. Расказаць пра сваю сям'ю па плану:

а) Якая ў вас сям'я?

б) Дзе працуе маці?

в) Як ты і твой брат (сястра) памагаеце сваёй маці?

4. Запісаць у сшыткі і запомніць наступныя радкі верша:

Матуліны рукі —
Адзіны ў свеце.
Шануйце, любіце
Заўсёды іх, дзеці.

5. Прыкладнае чытанне настаўнікам верша В. Шымука „Маці".

6. Дамашняе заданне: Навучыцца прыгожа чытаць верш „Маці", вывучыць на памяць наступныя радкі:

Сэрцы ж усіх матуляў
Шэпчуць пад шум вясны:
„Хочам, каб нашы дзеці,
Хочам, каб нашы ўнукі
У шчасці жылі заўсёды
І не спазналі вайны".

**мгр Аляксандр Артэмовіч**



Лявон Тарасэвіч. Пейзаж, 1984.

Фота Я. Сабары.

# НА ЎЛОННІ РОДНЫХ ВАЛІЛ

Лёнік (Лявон Тарасэвіч) стаў частым госцем нашай газеты. Гоман сталіцы не звабіў Лёніка — свае творчыя пошукі ён перанёс на ўлонне родных Валіл і там вырашыў даць волю свайму паэтычнаму натхненню. Бо кожны скажа, што Лёнік у душы — паэт. „Вярнуўся я ў Валілы, — гаворыць ён, — бо мне патрэбны і гэты лес, і гэтыя птушкі. Мой новы цыкл прац, паказаны ў Любліне, гэта, як і раней, пейзаж, але які ён ужо іншы! Не бяшчады гэта і ніякі іншы закутак, а толькі і выключна гэты, беластоцкі, валілаўскі, свойскі. Адчуваю сябе найбольш упэўненым, калі знаходжуся тут, у Валілах, а калі ж яшчэ маю перад сабою белую сцяну палатна, з якім магу сsnuць свае разважанні... Тады ўжо можна сказаць, што я зусім шчаслівы", — уздыхае Лёнік.

Што паказаў Лёнік у Любліне? Паказаў 8 работ. Усё валілаўскі пейзаж: поле, тутэйшае дрэва, лясны гушчар, птушкі... Нялёгка было б хлопцу, які паkуль што жыве толькі на стыпендыю Міністэрства культуры і мастацтва, выдаць 5-6 тысяч злотых на падрыхтоўку аднаго (3x4 м) палатна (купіць палатно, загрунтаваць яго, даць хаця абы-якую рамку). І Лёнік умудрыўся. Падумаў, што варта было б спрабаваць маляваць на ўпаковачнай паперы. Выйшла добра! Маляваць давялося плакатнымі фарбамі. Трэба было часамі склейваць паперу, бо былі фарматы і 7x4 м. І ўсе гэтыя працы паехалі ў Люблін. Было шмат пахвал.

Выстаўка ў Любліне — гэта ўжо сёмая выстаўка маладога мастака.

Першая індывідуальная выстаўка Лёніка адбылася ў „Майстэрні дэканцы" ў Варшаве, у лютым 1984 года. Ужо ў маі 1984 года адбылася другая, на гэты раз у клубе БГКТ у Варшаве, яна ўзбудзіла шмат кантраверсій. Жнівень 1984 — выстаўка ў галерэі „Фоксаль" у Варшаве, студзень 1985 — другая выстаўка ў „Майстэрні дэканцы", дзе былі паказаны ўжо новыя карціны, створаныя на Беласточчыне.

Амаль адначасова Лёнік бярэ ўдзел у дзвюх калектыўных выстаўках. У Вроцлаве (у лютым 1984 г.) адбылася выстаўка „Дыплом-84", дзе былі паказаны найлепшыя дыпломныя работы выпускнікоў мастацкіх акадэмій і вышэйшых мастацкіх школ, а ў студзені 1984 г. у Лондане адкрылася Міжнародная ярмарка сучаснага мастацтва, дзе было прадстаўлена 400 галерэй з усяго свету. Лёнік з іншымі прадстаўляў варшаўскую галерэю „Фоксаль". Там




## БЕЛАРУС ТЫ!

Дзе б ты не пасяліўся,
Дзе б не спавіў сабе гняздо,
Помні, каб ты не забыўся,
Дзе калісь быў малышом.

Не забудзь вясковай хаты —
Бацька й маці там жылі.
Там ў калысцы калыхалі
І спявалі „Бай-люлі".

Ганарыся роднай мовай,
Ты яе не забывай.
А калі хто запытае,
Беларус ты — добра знай!

Калі ў клопатах ты будзеш,
То у „Ніву" напішы.
Падамо табе мы руку,
Каб ў бядзе дапамагчы.

Не забудзь, дзе навучыўся
Першы словы вымаўляць.
Добра ведай — ўсюды трэба
Сваю мову шанаваць.

**М. Лук'янюк**

ПАРТЫЗАНСКІЯ СЦЕЖКІ

# НЕ ПАДАЦЬ ДУХАМ

У вушах усё яшчэ чуў ён загады нямецкага афіцэра: „Выяўляць камуністаў і савецкіх актывістаў, паведамляць уладам аб паяўленні ў вёсцы рускіх салдат, якія асталіся ў тыле або вырваліся з палону. За непадпарадкаванне гэтым загадам пагражала смерць". Пагроза гэта не была пустаслоўнай. Незадоўга бяспрасоўны сялянскі тэлефон перадаў па наваколлі, што на хутары між Юзафовам, Пілатоўшчынай і Грыбаўцамі гітлераўцы расстралялі Храноўскіх — бацьку і сына, што ў Гарадку ахвярамі акупантаў паў Вайцяхоўскі і яшчэ некалькі іншых яго таварышаў, з Беляўіч забралі Аляксандра Дудзіка і след па ім загінуў. Трывожныя весткі паступалі са Страшава і Скраблякоў.

Наш народ пераняў у спадчыне ад сваіх продкаў перакананне, што ўсё жывое — дар божы, і без прычыны нельга задушыць нават чарвяка. А тут гінулі людзі, якія нікому не зрабілі нічога дрэннага. Вось як гэты селянін са Скраблякоў, што быў прыхільнікам калектыўнай вясковай гаспадаркі. Разлік акупантаў быў просты: запалохаць людзей, прыбіць іх, прынізіць магутнасцю і сілай новай улады. Хай загадзя звыкнуцца з роляй паднявольнай расы, якая абавязана служыць панам тысячагадовай вялікай нямецкай імперыі. Страх, усеўладны, знясільваючы страх, расплываўся па вёсках. Паглыбляла яго бесперспектыўнасць сялянскага быту. Новая ўлада абклала гаспадароў высокімі кантынгентамі. Аддаваць даводзілася амаль усё, што селянін сабраў ці раздабыў: збожжа, жывёлу, яйкі, малако, нават і тытунь прымушалі садзіць ды ўвесь плён пастаўляць акупанту.

Хто ж адважыўся б супрацьставіцца гэтай усемагутнай, здавалася б, уладзе? Хіба толькі той, каму ўласнае жыццё абрыдла, хто пажадаў сабе пакутніцкую смерць у турме або ў лагеры. Так меркавалі і да гэтага імкнуліся акупанты.

Аднак, знайшліся людзі, якія з поўным перакананнем заяўлялі, каб не падаць духам, што не ўсё яшчэ страчана.

З іх ліку паходзіць Сцяпан Кандрусік з Гарадка, болей вядомы пад клічкай Капітанчык. Добрую загартоўку падпольнай дзейнасці прайшоў ён у Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

Свой свайго, калі трэба, заўсёды знойдзе. Таксама і пры гэтым жа Капітанчыку мала-памалу пачала ўтварацца група будучых антыфашыстаў і ўдзельнікаў руху актыўнага супраціўлення акупанту. Хто хацеў ведаць, што дзеецца на свеце, як далёка зайшлі ўжо немцы, ці сапраўды занялі яны Маскву, ці паў Ленінград — усе знаёмыя і незнаёмыя таварышы шукалі гэтых вестак у Капітанчыка. Толькі адкуль было яму ведаць аб усім гэтым? „Вось каб недзе раздабыць радыёпрыёмнік!" — марыў ён. Гэтая думка яго запаланіла. То нічога, што за слуханне радыёперадач па-

было паказана 6 яго прац. Была там, між іншым, праца, якую намаляваў ён яшчэ будучы студэнтам III курса: чырвона-бардовыя травы на фоне белага снегу. Нядаўна Лёнік даведаўся, што якраз гэта яго карціна закуплена ў Лондане. Лёнік марыць, што за грошы, якія атрымае, ён зможа паехаць у Эдынбург, у Шатландыю. Там жа ў жніўні г.г. мае адбыцца фестываль мастацтва. Будуць паказаны там жывапіс, тэатр, музыка і іншыя галіны мастацтва. Выбраны для паказу і Лёнікавы працы. Лёнік хацеў бы сканфрантаваць сваю працу з сучасным мастацтвам свету. „Маю комплекс рэпрадукцый, — гаворыць ён. — Хачу ўбачыць, як гэта мастацтва сапраўды выглядае. Не магу рабіць мастацтва, седзячы збоку. Трэба ўбачыць, што робяць іншыя“.

І так памаленьку, вярнуўшыся з Любліна, Лёнік на ўсякі выпадак пачаў рыхтавацца да Эдынбурга.

Хто сутыкнуўся з карцінамі Лёніка Тарасэвіча, той ведае, што яго пейзаж наскрозь сучасны, амаль мяжуе з абстрактным. Адчуваецца тут школа Тадэуша Дамініка. Не кожны зразумее гэта мастацтва, не кожны яго палюбіць. Але не кожнаму і дадзена зразумець усё гэта. А ўжо не дай Божа, каб хто стаў меркаваць аб яго працах на падставе рэпрадукцый на першай старонцы „Нівы“! Бяздушная газетная папера няраз патрапіць знішчыць нават найлепшыя здымкі. А што ўжо гаварыць пра рэпрадукцыі карцін! Як, якім цудам перадаць на ёй увесь трагізм анямелай ад зімовага холаду прыроды? Як сказаць, што дрэвы ад смутку пасінелі, а травы крычаць з болю, плачуць крывавымі слязьмі на белых глыбах снегу, які забраў ім усю радасць і надзею на хуткае вяртанне вясны?! Карціны Лёніка трэба ўбачыць.

Спадзяемся, што восенню гэтага года (як і мяркуе аўтар) выстаўка яго прац адбудзецца-такі ў Беластоку. Мы са свайго боку з увагай будзем сачыць за развіццём багатага таленту гэтага сімпатычнага хлопца.

**Ада Чэчуга**

# ІВАН ФЁДАРАЎ І ПАЎНОЧНА-СЛАВЯНСКАЕ ДРУКАРСТВА

Пад такім загалоўкам аддзяленне грамадскіх навук Акадэміі навук Беларускай ССР выдала кнігу на 400-годдзе са дня смерці Івана Фёдарава — выдатнага гуманіста і заслужанага друкара для культур: беларускай, рускай і ўкраінскай. Выхад гэтага выдання ў 1984 г. быў вялікай падзеяй для ўсіх тых, хто цікавіцца традыцыямі беларускай культуры. Аднак не многія будуць цешыцца тым, што маюць у сваіх зборах яе, бо кніга выйшла надта ж малым тыражом 1300 экземпляраў. Таму здаецца неабходна шырэй абмеркаваць яе змест.

Апрача артыкулаў 15 аўтараў, якія саставілі М. Б. Батвіннік і А. Ф. Коршунаў, змешчаны ў ёй аж 33 арыгінальныя ілюстрацыі, якія дакументуюць дасягненні друкарскага мастацтва ў XVI і першай палове XVII стагоддзяў, не лічачы ўжо аздобных ініцыялаў і заставак паміж артыкуламі. Словы прызнання належацца ўсім, але беручы пад увагу высокі ўзровень выдавецкай культуры, трэба іх накіраваць перш за ўсё ў адрас Рэдакцыйнай калегіі пад кіраўніцтвам І. Я. Навуменкі і мінскага выдавецтва „Навука і тэхніка“!

**Змест кнігі найлепш раскрываюць ужо самыя загалоўкі артыкулаў: „Францішак Скарына і Іван Фёдараў — паслядоўніцтва асветніцкіх і эстэтычных традыцый“ (В. М. Конан), „Пытанні паўночнаеўрапейскага Рэнесансу і Гуманізму“ (С. А. Падокшын), „Беларусь у часы Івана Фёдарава“ (А. П. Грыцкевіч),** „Іван Фёдараў і беларускае кнігадрукаванне“ (А. Ф. Коршунаў), „Пытанне аб прабыванні Івана Фёдарава на Беларусі“ (І. З. Мыцко), „Мастацкае афармленне заблудаўскіх выданняў“ (В. Ф. Шматаў), „Буквар“ Івана Фёдарава і яго традыцыі“ (М. Б. Батвіннік), „Папера заблудаўскіх выданняў“ (О. Я. Мацюк), „Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец“ (Е. В. Ялугін), „Іван Фёдараў і Пётр Мсціславец і беларуская кніжная традыцыя“ (В. Е. Яцук), „Сучаснікі Івана Фёдарава — Сымон Будны і Васіль Цяпінскі“ (В. Ф. Шалькевіч), „Віленскія выданні Пятра Мсціслаўца ў зборах Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна“ (Ю. А. Лабынцаў), „Традыцыі Івана Фёдарава ў беларускай літаратуры канца XVI — першай паловы XVII стагоддзяў“ (В. Г. Кароткі) і „Паслядоўнікі Івана Фёдарава на Беларусі і Украіне“ (В. П. Коласава).

Аўтары артыкулаў імкнуліся паказаць Івана Фёдарава як гуманіста і друкара, а таксама яго здзяйсненні на шырокім фоне эпохі. Такое заданне цяжка выканаць аднаму даследчыку, таму вырашыў яго калектыў і то з вялікім поспехам. Патрапілі яны, як і належыцца добрым гісторыкам культуры, прасачыць сярод аграмаднай колькасці з'яў і падзей галоўным чынам такія, якія з'яўляюцца свайго роду „ключом“ для зразумення людзей і часоў. З усяго явіцца нам каларытная фігура Івана Фёдарава — чалавека Рэнесансу, усебакова адоранага, вядомага па прыгожых двухкаляровых выданнях. У заснаванай ім друкарні ў Маскве выдае ён супольна з Пятром Мсціслаўцом шэраг кніг, сярод якіх да самых славутых належаць „Апостал“ (1564) і „Часоўнік“ (1565). Гэта былі часы панавання Івана Грознага, калі на Русі павялічваецца зацікаўленне заходняй цывілізацыяй і запатрабаванне на адукаваных людзей. Сам цар падтрымліваў дзейнасць Фёдарава і Мсціслаўца, ён бачыў у распаўсюджанні друкаванага слова — аднолькавага і свабоднага ад памылак — фактар, які спрыяе цэнтралізму („Literatura rosyjska w zarysie”. Pod red. Z. Barańskiego i A. Semczuka, Warszawa 1976, s. 59). Затым Фёдараў пакідае Маскву, каб праз Вільню трапіць у Заблудаў. Жыў там чатыры гады, надрукаваў для Р. Хадкевіча, між іншым, „Евангелле вучыцельнае“ (1569), да якога сам Р. Хадкевіч напісаў уступ. Затым Фёдараў пераязджае ў Львоў (1572) і там засноўвае славянскую друкарню. Прабывае таксама ў г. Астрог і там выдае на тры гады да смерці „Астрожскую біблію“ (1581), якая паўсюдна лічыцца самым выдатным творам друкарскага мастацтва на Русі ў XVI ст. Паміpae ён 5 снежня 1583 г. у Львове і то ў самай вялікай нэндзы!

Значэнне Івана Фёдарава, яго супрацоўнікаў і паслядоўнікаў зводзіцца да таго, што яны паступова садзейнічалі не толькі распаўсюджанню кнігаў, якія пачалі даходзіць да ўсё шырэйшага кола чытачоў, але таксама ідэй Рэнесансу і свецкай навукі. Гэта былі вялізныя крокі прагрэсу, без якіх цяжка сабе ўявіць і абгрунтаваць сучасную гісторыю народаў.

**Кнігу можна горача рэкамендаваць чытачам, калі ім удасца яе здабыць. Думаю таксама, што неўзабаве будзе прынята рашэнне пра дадатковы яе друк або новае выданне, бо яна заслугоўвае таго.** Маючы гэта на ўвазе, можна было б яе крыху ўдасканаліць, галоўным чынам змяшчаючы сінхронную табліцу, у якой былі б пададзены падзеі і з'явы, што адбываліся адначасова; паказана ў разрэзе жыццё розных пластоў насельніцтва Маскоўскай дзяржавы, Беларусі, Літвы і Украіны; атмасфера працы ў тагачасных друкарнях, асабліва — калі гэта магчыма — у друкарні Івана Фёдарава. І ў канцы змясціць агульную бібліяграфію па тэме. Аднак гэта не змяншае высокай каштоўнасці кнігі ў той форме, у якой яна дайшла да нас.

**д-р К. Пудла**

---

гражаў арышт і лагер смерці. Жаданне, каб што-колечы ведаць і іншым перадаць праўду аб становішчы на фронце было мацнейшае ад пагрозы гітлераўскіх здзекаў.

**І радыёпрыёмнік знайшоўся. У карчах уздоўж дарогі з Беластока ў Ваўкавыск можна было тады знайсці ўсялякае дабро. Вядома, рэчы болей вартасныя і карысныя для хатняга ўжытку хутка апынуліся ў сялянскіх каморах і свірнах. На тэхнічныя навінкі сяляне менш звярталі ўвагу, а нават і крыху пабойваліся іх. Стравы з гэтага немагчыма наварыць, ані голага хрыбта прыкрыць, а доказ яўны, што ты казённую рэч сабе прыгалубіў. За гэта і немцы нікога не пахваляць. У іх парадак мусіць быць!**

Капітанчык дагаварыўся са сваімі сябрамі, што выпрабуюць свой радыёпрыёмнік на балоце між Гарадком і вёскай Меляшкі. Знайшлі высокае дрэва, якое вырастала з густых карчоў, у яго кроне расцягнулі доўгі тэлефонны провад, каб выконваў ролю антэны, і пачалі радыё наводзіць на Маскву. Хацелася пачуць, што гавораць рускія. На жаль, не ўдалося. Аказалася, што вычарпаліся батарэі, а запасных у іх не было. Давялося папытаць у знаёмых па суседніх вёсках. Можа хто дзе-небудзь прыдбаў сабе нейкую батарэю ад ваеннай радыёстанцыі.

**— Толькі асцярожна, хлопцы! — папярэджваў Капітанчык. — Залішне не балбачыце языком!**

**Урэшце яму першаму ўдалося наткнуцца на след пажаданай высокавольтнай батарэі. На кірмашы ў Гарадку зусім выпадкова еустрэў ён знаёмага сябрука з суседняй вёскі. Пасля кароткага абмену традыцыйнымі пытаннямі і такімі ж традыцыйнымі адказамі, хутка завязалася ў іх дзелавая гутарка пра тое, што сапраўды абодвух найбольш цікавіла: што чуваць на свеце і як даведацца аб гэтым.**

— Быў бы спосаб, — заявіў Капітанчык, — але патрэбна батарэя на 120 вольтаў.

— Знойдзецца! — нечакана для Кандрусіка адказаў сябар. — Гэтага дабра шмат валялася ў прыдарожных карчах за нашай вёскай.

Капітанчык болей не цікавіўся, хто і ад каго мае гэтае „дабро“. Дагаварыліся толькі, дзе і калі шукаць яму гэтыя батарэі. **І радыё загаварыла. Пайшла інфармацыя з першай рукі. Ад радасці хацелася проста танцаваць, бо пачулі яны, што немцам не ўдалося яшчэ дайсці да Масквы, што рускія заўзята абараняюцца, што надзея яшчэ не патрачана!**

**Хацелася неяк падзяліцца з іншымі людзьмі гэтай радасцю, гэтымі суцяшальнымі весткамі. Толькі як? То ж не пойдзеш на рынак і не станеш крычаць: „Слухай, народ, Масква яшчэ свабодная!“ Нават у кругу знаёмых небяспечна паўтараць пачутае па радыё, бо весткі гэткія хутка дакоцяцца да нямецкай улады, а там, ухапіўшыся за нітачку, хутка знойдуць і клубок.** Нехта падаў думку, каб перапісваць найважнейшыя паведамленні маскоўскага радыё і даваць давераным людзям, каб прачыталі ды далей падалі знаёмым.

— Прапанова добрая, — згадзіўся Капітанчык, — але таксама небяспечная. Па почырку, як ты яго не мяняй, лёгка распазнаць, хто гэта пісаў. Вось, каб нам раздабыць аднекуль пішучую машынку!

**І думаючы аб гэтым, прыгадаў ён сабе свайго швагра з вёскі Грыбаўцы. Ён пры Саветах быў сакратаром у сельсавеце і даволі спраўна ламатаў ужо па гузічках пішучай машынкі. Выбар аказаўся вельмі трапны. Савецкая адміністрацыя пакідала Гарадок на другі дзень вайны, 23 чэрвеня 1941 года, намагаючыся вырывацца з беластоцкага катла. Транспарту на перавоз цяжкіх рэчаў не было. Вось тады і Гаўрысь Навіцкі прыхаваў гэтую пішучую машынку.**

А я не магу ўстрымацца ад заўвагі, што ўжо трэці раз у часе маёй вандроўкі ваеннымі сцежкамі паяўляецца ў падпольшчыкаў пішучая машынка. І за кожным разам яе з'яўленне было выклікана шчырым жаданнем, каб супрацьпаставіцца

**(Працяг на стар. 8)**

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

Весці Акадэміі навук БССР. Серыя грамадскіх навук. „Навука і Тэхніка“, Мінск 1984, нумары 1-6. (Часопіс выдаецца з 1956 г. Выходзіць шэсць разоў у год).

Некаторыя артыкулы, якія могуць зацікавіць чытачоў, менавіта:

Сямейных З. М.: Перасяленчая палітыка царызму ў Беларусі ў 1900-1914 г.г., № 1 с. 68-75.

Слобожанин В. П.: Местные органы государственного управления в Белоруссии (1905 — февраль 1917 г.г.), Н 1 с. 123-124.

Стужынская Н. І.: Гістарыяграфія Кастрычніцкай рэвалюцыі на Беларусі (1917 — сярэдзіна 30-х гадоў), № 2 с. 54-59.

Лойка М. Ф.: Рэнта ў прыватнаўласніцкіх маёнтках другой палавіны XVI-XVIII ст. ст., № 2 с. 60-66.

Частнова Р. П.: Асаблівасці ўвасаблення тэмы працы ў беларускім савецкім жывапісе, № 2 с. 74-80.

Барабанава Л. П.: Сюжэтны склад усходнеславянскіх навелістычных казак, № 2 с. 81-88.

Янушкевіч І. І.: Новыя дакументы пра В. Дуніна-Марцінкевіча, № 2 с. 104-111.

Первачук Г. А.: Ідэйна-палітычнае выхаванне і педагагічная перападрыхтоўка настаўніцкіх кадраў у Беларусі (1917-1919 г.г.), № 3 с. 62-65.

Зайцаў М.М.: Барацьба беларускага сялянства супраць вінных водкупаў напярэдадні рэформы 1861 г., № 3 с. 67-74.

Дзягілеў Л. Я.: Пошукі новых сродкаў выразнасці ў манументальным мастацтве Беларусі (другая палавіна 50-х — 60-я гады), № 3 с. 82-89.

Якаўлеў С. М.: Марфалагічныя элементы польскай мовы ў сістэме дзеяслова старабеларускай пісьменнасці, № 3 с. 104-110.

Цішчанка І. К.: Праграма П. В. Шэйна па збіранню фальклору, № 4 с. 72-76.

Фадзеева В. Я.: Народная вышыўка канца XIX — пачатку XX ст., № 4 с. 77-83.

Браім І. М.: Гісторыка-этнаграфічныя рэгіёны Беларусі (рэцэнзія), № 4 с. 119-121.

Прымачук І. П.: Развіццё міжнародных сувязей Беларускай ССР у галіне адукацыі, № 6 с. 59-67.

Міронаў М. А.: Беларускі пейзажны жывапіс (1945-1955 г.г.), № 6 с. 68-73

Шакінка Л. М.: Колер у аб'ектах беларускага дойлідства, № 6 с. 74-80.

Мельнікава З. П.: Асаблівасці ранняй лірыкі З. Бядулі, № 6 с. 81-87.

Шынкарэнка В. К.: Прынцып гістарызму і яго мастацкая рэалізацыя ў творчасці У. Караткевіча, № 6 с. 88-94.

Лецка К. І.: Ля вытокаў рамантызму ў беларускай літаратуры XIX ст., № 6 с. 95-101.

Выгонная Л. Ц.: Слабанаціскныя словы ў беларускай літаратурнай мове, № 6 с. 102-110.

Чайкіна Ю. І.: Праблемы славянскай тапаніміі, № 6 с. 119-121.

Р. С.

## Куток практычных ведаў

- Узбітая смятана будзе больш пышная, калі ўзбіваючы, вы дададзіце ў яе адзін узбіты ў пену бялок.
- Калі яечныя бялкі засохлі, заліце іх вадой і пакіньце так на ноч — яны стануць як свежыя.
- Яйкі для маянезу абавязкова павінны быць пакаёвай тэмпературы, бо калі ўзяць халодныя, маянез згорнецца.
- Часам вырабы з цеста прыліпаюць да сценак формы. У такім разе дайце яму астыць і зноў нагрэйце, але толькі знізу (гэта можна зрабіць на электрычнай плітцы) — пасля гэтага цеста лёгка адстане ад формы.



## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

Істотнай справай, звязанай з выхадам замуж дзяўчыны, быў яе ўзрост. Падыход да гэтага ў мінулым не быў аднародны. Наогул вясковая грамадскасць лічыла, што да выхаду замуж патрэбна, каб дзяўчына мела васемнаццаць гадоў, а хлопец некалькі гадоў болей. Аднак у бацькоў дзяўчыны заўважалася імкненне да выдачы яе замуж як найраней. Такая тэндэнцыя праяўлялася асабліва тады, калі ў бацькоў было некалькі дарастаючых дочак. Ва Усходняй Беласточчыне здараліся выпадкі, што выдавалі замуж шаснаццаці- або і пятнаццацігадовых дзяўчат.

У некаторых вёсках Гайнаўшчыны і Бельшчыны існаваў у мінулым вельмі цікавы і моцна каларыстычны абрад, а можа было б лепш назваць яго звычаем, або прыёмам. Заключаўся ён у тым, што бацька, дайшоўшы да вываду, што яго дачка даспела да выхаду замуж, саджаў яе ў сані, або ў воз, вазіў па вуліцы сваёй, або і суседніх вёсак і галасна крычаў: „Паспялуха! Паспялуха!“

Цікава, што такая форма рэкламы ўспрымалася мясцовымі жыхарамі, як нешта натуральнае, і што пасля такога мерапрыемства амаль заўсёды знаходзіўся хлапец або і некалькі, якія прыходзіў у сваты да гэтак прадстаўленай дзяўчыны.

У мінулым на Беласточчыне, так зрэшты, як і па ўсёй Беларусі, падборка маладой пары належала перад усім да кампетэнцыі бацькоў, а не да маладых. Здараліся і такія выпадкі, што бацькі ўвогуле не інфармуючы і не пытаючы сваіх дзяцей аб згоду, дамаўляліся адносна вяселля. У такой сітуацыі ўвесь пазнейшы вясельны рытуал, на які складаліся такія акты як: сваты, розгляды, лады і заручыны, хоць і адбываліся, то мелі толькі фармальны характар. Зразумела, што здараліся выпадкі, што дзеці ў такой сітуацыі „бунтаваліся“ супраць бацькоўскага дэспатызму. Аднак практычна амаль заўсёды перамагала воля бацькоў, а не іх дзяцей:

„*Хто там колісь, брацішку,* — кажа жыхар вёскі Рыбакі, Ёзыб Семасевіч, — *пытаў маладых аб тым, чы яны хочут жаніцца, чы не хочут, чы яны сабе нравяцца, чы не нравяцца. Любоў?! Якая там любоў! Старыя найчасцей дагаварыліся, або ў карчме седзячы, а то ў лесі робячы, а то едучы з кірмашу, чы на кірмаш. Часто бывало і так, што бацько дзяўчыны, седзячы на вяселлі каля бацька хлопца, добрэ выпіўшы, возьме і скажэ: „Ну а чаму ж нам, суседзе, не пажэніць нашых дзяцей? Што ж гэто, чы яны не такіе, як іншы людзі?“*

*Той другі пачухаецца ў патыліцу, перахіліт яшчэ адну чарку, падумае і скажэ: „Я і сам, брацішку, аб гэтым падумваў, толькі мне здаецца, што ты скупаваты і цяжка будзе ад цябе добры пасаг вырваць“.*

*Ну і пойдзе тут турзаніна. Абодва адказвают, што яны вельмі добры людзі і што для дзяцей нічога ні пашкадуют. Вядомо, што ні заўшэ з гэтаго штось толковэ выходзіло, але вельмі часта пяройдзе тыдняў пяць і ўжо новэ веселле ў вёсцы.*

*А маладых... Хто іх там пытаўся? Вядомо, мусят ім у канцы сказаць, але ніхто з імі не лічыўся. Гэто табе ні то, што сегодня, калі маладыя пажэняцца, а бацькі аб гэтым пасля вяселля даведваюцца*“.

Моцная пазіцыя бацькоў у заключэнні вясельнага і шлюбнага акту тлумачыцца патрыярхальнымі, кансерватыўнымі ўстоямі, якія складаліся цэлымі стагоддзямі. Адказнасць бацькоў за зямлю і ўсю маёмасць вызначала таксама іх вялікую ролю і кампетэнцыю ў [illegible] сферы, якую трэба назваць духоўнай.

А. Баршчэўскі

## ФАЛЬКЛОР

### ВСТАНЬ, ПОЛОЖНОЧКО!

(радзінная)




— Встань, положночко, встань, нам вечэраті дай!
— Шчэ я ў пэчэ ні паліла, вэчэраті ні варыла.
— Встань, положночко, встань, нам вечэраті дай!

Ад Вольгі Нікановіч, 1889 года нараджэння, вёска Макаўка гм. Нарва, запісаў у верасні 1983 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

(Працяг са стар. 7)

## НЕ ПАДАЦЬ ДУХАМ

нахабнай адурманьваючай гебельсаўскай прапагандзе. Гэта першая ступень да актыўнага антыфашысцкага руху. Так утварыўся народны фронт, так мацавалася надзея: не падаць духам! У вёсках пачалі паяўляцца першыя лістоўкі з масцкоўскімі паведамленнямі аб становішчы на франтах. Дайшлі яны таксама да рук Міцькі з Грыбаўцаў. Недзе ў палавіне жніўня 1941 года быў наладжаны першы патаемны сход падпольшчыкаў-антыфашыстаў з раёну Гарадка. Я ўпэўнены, што ў розных кутках Беласточчыны раней ці пазней адбываліся яшчэ іншыя падобныя сходы, у якіх прымалі ўдзел адважныя людзі, якія рашыліся спалучыць свае сілы ў барацьбе з ворагам. Мне, аднак, пашчасцілася натрапіць на групу Сцяпана Кандрусіка, гэтага Капітанчыка, і ёй я ахвотна прысвячу крыху часу і ўвагі. Але ўжо наступным разам.

Віктар Рудчык

**На Захадзе без перамен**

### „АЛІЎКАВАЯ ХВАРОБА“

Калі ў шпіталі Рамоні Каат, што знаходзіцца ў іспанскай правінцыі Мадрас, пасля працяглай хваробы памерла 12-гадовая дзяўчынка Нуна Сідонха, гэта не было ўспрынята як нейкая незвычайная падзея. Але яе смерць была звязана з нейкімі не зусім звычайнымі акалічнасцямі — Нуна хварэла не адна, разам з ёю ў шпіталі ляжалі яе маці і малодшыя браты і сёстры, якія на шчасце ўсе выжылі і вярнуліся дамоў. Што гэта за таямнічая хвароба такая навалілася на сям'ю, няйначай нейкая інфекцыйная?

Свет на гэты выпадак праліла сама нябожчыца Нуна. Дакладней, не яна, а яе бальнічны дзённік, які яна пакінула для жывых. У тым дзённіку Нуна лепш за ўсялякага ўрача паставіла сабе дыягназ: „Паміраю ад аліўкавай заразы“... А хвароба гэта зусім не інфекцыйная, а хутчэй сацыяльная і набыла сапраўды размах эпідэміі. Справа ў тым, што сям'я Сідонха ўжывала ў страву купленае на рынку аліўкавае масла, якое хутчэй прыгодна як змазачны матэрыял, чым харч, бо ў яго дамешваліся зусім недазволеныя небяспечныя для здароўя тэхнічныя кампаненты тыпу фарбы. Кошт гэтага масла быў па кішэні беднаце, вось яна і накінулася на яго. У сям'і Сідонха толькі бацька не захварэў, бо ён, маляр па прафесіі, не меў магчымасці абедаць дома.

Наогул гэтая хвароба ў правінцыі набыла масавы характар. Толькі па афіцыйных паведамленнях у друку „аліўкавая зараза“ захапіла і звалілa на ложак за тры мінулыя гады каля 24 тысяч іспанцаў і каля 500 з іх памерлі. Яны хварэлі доўга і пакутліва. Члены той жа сям'і Сідонха хварэлі з 1982 года, некалькі разоў знаходзіліся ў бальніцы і сталі падобнымі да свайго ўласнага ценю. А ўрад краіны пачаў расследаваць гэтую справу толькі нядаўна. Тым больш, што дактары не ведаюць да гэтай пары, як лячыць „аліўкавую хваробу“: людзі сохнуць на вачах, хаця на першы погляд яна выказвае сімптомы накшталт ардынарнага грыпу.

А. Л.

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




*Вучні сёмага класа з настаўнікам Іванам Міранюком у класе беларускай мовы.*

## ШКОЛА Ў МАХНАТЫМ

— З прыемнасцю іду ў сёмы клас на ўрокі беларускай мовы, — гаворыць шматгадовы настаўнік беларускай мовы школы ў Махнатым Іван Міранюк.

Беларускую мову ў Махнатым вывучаюць усе дзеці. А старэйшыя класы цікавяцца не толькі мовай, але даволі шырока і літаратурай, і гісторыяй, і народнымі звычаямі і традыцыямі.

Тры гадзіны ў тыдзень на беларускую мову вучням старэйшых класаў аказваецца недастаткова. Каб пашырыць свае веды, вучні старэйшых класаў стварылі беларускі гурток жывога слова. Ужо адбыліся ў школе дзве вечарыны, падрыхтаваныя сіламі гуртка. Сямікласнікі прыгожа спяваюць песні і на словы Віктара Шведа „Бацькоўскі парог“ і „Беласточчына“. А сцяну ў іх класе (відаць на здымку ўверсе) упрыгожваюць таксама патрыятычныя словы з верша В. Шведа.

Да вучняў пятага і шостага класаў „Зорка“ трапіла на ўрок музыкі. Пад кіраўніцтвам настаўніцы Леаніды Дацэвіч дзеці вучацца спяваць гаму па спецыяльнай музычнай дошцы, выйгрываючы на ёй спецыяльнай указкай. Дзеці развучваюць розныя песні, карыстаюцца для акампанементу дзіцячымі перкусійнымі інструментамі. Большасць з іх спявае ў школьным хоры, які ўпрыгожвае ўсе школьныя ўрачыстасці.

У школе ў Махнатым амаль ўсе дзеці развіваюць свае зацікаўленні ў розных гуртках. Працуе ў школе фатаграфічны і біялагічны гурткі пад кіраўніцтвам дырэктара школы Міхася Кісялеўскага, цікава працуюць гурток „Умелыя рукі“, гурткі польскай і рускай моваў і іншыя, пад апекай настаўнікаў-прадметнікаў.

Вельмі сімпатычна віталі „Зорку“ вучні трэцяга класа. Яны ўжо даўно чытаюць „Зорку“, ведаюць шмат беларускіх вершаў напамяць; прыгожа спяваюць. З імі ўжо можна было падыскутаваць аб тым, што ім найлепш падабаецца ў „Зорцы“. Найцікавейшымі для іх з'яўляюцца казкі і вершы. Але і адгаданкі любяць многія.

Пакідала я школу ў аптымістычным настроі. Прыемна было пераканацца, што ў гэтай вясковай школе дзеці і вучацца вельмі добра, і бавіцца ўмеюць з карысцю, наогул вельмі цікава праводзяць свой вольны ад заняткаў час.

Маю таксама надзею, што яны часцей будуць пісаць пісьмы ў рэдакцыю, расказваючы іншым дзецям аб тым, што цікавага ім удалося арганізаваць у сваёй школе.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**



*На ўроку музыкі: спявае Мажанка Вашчэнка пад акампанемент настаўніцы музыкі Леаніды Дацэвіч.*

**ДА 40-ГОДДЗЯ ПЕРАМОГІ НАД ФАШЫЗМАМ**

## КАЛІ ЗАКУКУЕ ЗЯЗЮЛЯ

**Пачатак у папярэднім нумары**

Камандзір паціснуў ім рукі.

— Справа да вас ёсць, хлопцы, вельмі важная. Атрымалі мы загад — узяць гітлераўскіх штабістаў, што пасяліліся ў вашай хаце. Вельмі важныя птушкі, аказваецца. Загады, як разумееце, трэба выконваць, а ў нас не ўсё ладзіцца. Сядзяць яны ў добра ахоўваным штабе, а калі і выязджаюць, дык таксама з вялікай аховай... Варту ля штаба зняць не так ужо і цяжка — ёсць у нас такія хлопцы-малойцы — і паглядзеў на дзядзьку Панаса. — Але афіцэры будуць адстрэльвацца, а то могуць і кулю сабе ў лоб пусціць... Іх трэба жывымі ўзяць. Што рабіць?

Брэты заклапочана глядзелі на камандзіра, а ён працягваў:

— Ці не дапаможаце вы нам, сябры? Бо ж калі фашысты абедаюць, іх зброя знаходзіцца ў вас. А што, калі ёю пакарыстацца?

— Мы і самі аб гэтым думалі, — сказаў Пеця, — але мы страляць не ўмеем...

— Гэта нічога, — усміхнуўся камандзір, выцягнуў скрынку стала і выняў адтуль некалькі пісталетаў.

— Якія ў вашых кватарантаў?

— Вось такія!

— „Вальтэр“, — камандзір узважыў на далоні пісталет. — Хадзіце ў лес...

Калі навучыліся добра страляць, зноў зайшлі ў зямлянку. Пачалі ўзгадняць час аперацыі.

— Гадзіннік у пакоі ёсць? — спытаў камандзір.

— Ходзікі з зязюляй. Старыя, але ходзяць дакладна. Фашысты ўстаюць ад стала, калі зязюля пракуе два разы.

— А ў палавіне другога кукуе?

— Ага. Адзіны раз..

— Добра! Тады і выхоплівайце зброю. А цяпер патрэніруйцеся. Вось вам пісталеты ў кабурах. Калі я падам знак, пачынайце! — і камандзір стукнуў па стале.

Хлопчыкі — да кабураў. Ад хвалявання штыўнелі пальцы, не адчыняліся запінкі. Пеця ўсё ж неяк выцягнуў пісталет, а Валодзя ледзь не плакаў — не выходзіла — і ўсё!

— Нічога, сябры! Давайце яшчэ раз патрэніруемся. Памятайце, што тут самае галоўнае — спакой!

Нарэшце камандзір сказаў:

— Ітак, у сераду. А палове другой. І пра нашу ўмову — нікому.

Два дні праляцелі, як у ліхарадцы. Аднак ад маці хвалявання не схаваеш.

— Калі нешта надумалі, — уважліва паглядзела на іх. — Глядзіце, бацька вернецца з фронту — рамяня не пашкадуе!

Затое дзяншчык быў задаволены. Хлапчукі стараліся як ніколі: і ваду насілі на час, і дроў накалолі на нядзелю наперад.

(Працяг на стар. 10)

Мікола Чарняўскі

### БУЛЬ-БУЛЬ-СУП

Я на кухні
Не гуляю —
За плітою
Наглядаю.

— Ой, вада кіпіць, булькоча,
Уцячы з каструлі хоча!
Як мне з ёю саўладаць?
Каб спішэла —
Што ёй даць?

— Круп сыпні,
Парэж бульбінку —
Вар суцішыцца ў хвілінку, —
Падказала мне бабуля.
Я сыпнула.
„Буль-буль-буля... —
Булькатнуў
Удзячна
Вар. —
Толькі рукі не апар".

Я на кухні
Не гуляю —
За каструляй
Наглядаю.

— Ой, вада ізноў булькоча,
Уцячы з каструлі хоча!
Як мне з ёю саўладаць?
Каб спішэла —
Што ёй даць?

— Кінь цыбулінку яшчэ —
І тады вар не ўцячэ, —
Падказала зноў бабуля...
Зноў удзячна:
„Буль-буль-буля... —
Булькатнуў
Вірліва
Вар. —
Што ж, далей
смялей кухар!"

Я на кухні
Нездарма —
Мне спакою ўжо
Няма.

Чую:
Вар мой зноў булькоча.
Што ж ён хоча?
Што ж ён хоча?

— Папярэдзіў, мусіць, нас —
Кідаць ліст лаўровы час! —
Падышла бліжэй бабуля,
Ліст узяўшы.
„Буль-буль-буля... —
Булькатнуў
Духмяна
Вар. —
Паглядзі, ці ёсць навар..."

Я заглядваю ў каструлю —
Бачу
Бульбу,
Ліст,
Цыбулю.
„Дзе ж навар?
Які навар?..
Ты дзівак, напэўна,
Вар?

,Гэтак думаеш?
Няўжо?
Я ж не вар —
Буль-с-суп я ўжо!
І табе я
Шчыра ўзячны:
Пэўна, буду
Вельмі смачны!.."



Дзяўчаткі з Барысаўкі выйшлі пагрэцца на веснавым сонейку. Фота Я. Чэрнякевіч.

## Пазнаёмімся

СССР, 300041, г. Тула, ул. Революции, д. 66, к. 1, кв. 229. Коротковой Лене. Хоча перапісвацца з дзяўчаткамі 12-13 год.

* * *

СССР, 344065, г. Ростов-на-Дону, ул. Киргизская, 9/1, кв. 12. Печагиной Ане. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* * *

СССР, 344080, г. Ростов-на-Дону, ул. Российская, 28а, кв. 42. Ивашиной Лене. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.

* * *

БССР, 230027, г. Гродна, вул. Рэпіна, 33, кв. 84. Яршоў Павел. Хлопчык вучыцца ў пятым класе.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Михайлова, 8-5. Полторакиной Ире. Дзяўчынка вучыцца ў шостым класе. И Полторакиной Ане. Дзяўчынка вучыцца ў чацвертым класе.

* * *

СССР, 346510, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Калинина, 34а, кв. 40. Минченко Лене. Дзяўчынка добра вучыцца, любіць танцаваць, умее шыць, вязаць на спіцах і кручком.

* * *

СССР, 346407, Ростовская обл., г. Новочеркасск, спуск Герцена, 2, кв. 2. Коцюбенко Оксане.

* * *

БССР, 225388, Брэсцкая вобл., Ляхавіцкі раён, в. Крывошын Якубчык Марыне. Дзяўчынка вучыцца ў сёмым класе.

* * *

СССР, 344065, г. Ростов-на-Дону, ул. Киргизская, 9/1, кв. 56. Сиваковой Ольге. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, к. 3, кв. 1. Света Канаплёва, вучаніца 7 класа.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, к. 3, кв. 1-А. Лена Голешава, вучаніца 5 класа.

(Працяг са стар. 9)

### КАЛІ ЗАКУКУЕ ЗЯЗЮЛЯ

— Вельмі добрыя хлапчукі, — хваліў іх немец. — Забярэм з сабою — вялікай Германіі патрэбны працавітыя людзі! — і даў ім па цукерцы.

Валодзя зноў хацеў выкінуць цукерку, але Пеця не дазволіў.

— Дзякуй! — крыкнуў ён наўздагон дзяншчыку.

...У сераду братоў, як заўсёды, паклікалі ў пакой. Афіцэры знялі мундзіры, накінулі іх на „вешалкі", развеселі зверху амуніцыю. Праз хвіліну і Панько пераступіў парог. Афіцэры глянулі на яго скоса.

— Прабачце, паны афіцэры! — сагнуўся ў тры пагібелі Панько. — Партызаны ў лесе заварушыліся! — і сеў за стол.

Нервы ў хлапчукоў напружыліся, як струны. Пеця прыслухаўся, спадзеючыся злавіць хоць які-небудзь рух за акном. А раптам у партызан што-небудзь сарвалася?

Час ішоў. Дзяншчык унёс другое, сабраў пустыя талеркі, пераступіў парог і зачыніў за сабой дзверы. Хлопчыкі не зводзілі вачэй з гадзінніка.

— Ку-ку! — быццам іголкай кальнула.

Час!

Хутка, як на трэніроўцы, браты выхапілі з кабур пісталеты, павярнуліся да стала.

— Рукі ўверх!

— Хэндэ хох! — крыкнуў Валодзя.

Панько аслупянела глядзеў на братоў, не разумеючы, што здарылася. Потым пацягнуўся да сваёй кішэні.

— Буду страляць! — папярэдзіў Пеця.

— Што за дзікія жарты! — таксама не зразумеў сітуацыі лысы. — Хлопчык, не цісні курок, пісталет можа выстраліць!

А калі зразумеў, у які пераплёт яны трапілі, пачаў прапанаваць:

— Пяць тысяч марак дадзім. Слова афіцэра! Толькі адпусціце!

А сам з надзеяй глядзеў на дзверы. Вядома, чакаў дзяншчыка.

І вось дзверы адчыніліся. У Панько вочы палезлі на лоб: у пакой уваходзілі партызаны...

А. Давыдаў



## Пішуць школьнікі

### ДАРАГАЯ „ЗОРКА"!

*Пішуць да Цябе вучні шостага класа пачатковай школы ў Пасынках. У нашым класе вучыцца 14 чалавек: 5 дзяўчынак і 9 хлопчыкаў. Мы хочам напісаць, як вучні нашай школы сустракалі вясну.*

*Вучні сёмага класа зрабілі саламяную ляльку Мажанну. Прыгожа яе апранулі. Развучылі таксама сцэнку, у якой расказваецца пра Мажанну. У чацвер, 21 сакавіка, перад урокамі сабраліся вучні нашай школы. Спачатку мы паглядзелі сцэнку, а потым усе разам пайшлі тапіць Мажанну. Спачатку падпалілі яе, а потым укінулі ў рэчку, што плыве блізка каля школы. Няхай хутчэй будзе вясна.*

*Жадаем Табе, „Зорка", усяго найлепшага.*

*Вучні шостага класа. Пасынкі.*

## Для самых маленькіх

### ЯГНЯ

За авечкай-маткай
Бегае ягнятка,
Матку ў бок штурхае,
Малачка чакае.
— М-э... — авечкі хорам. —
Як табе не сорам!
Пі само вадзіцу
І скубі травіцу.

### КУХАРКІ

Мы з сястрыцай Марылькай
Кашу з манкі варылі.
Калі каша зварылася,
Мама трошкі сварылася:
Наша каша пачарнела,
Моцна знізу прыгарэла,
А мы елі, хвалілі, —
Самі ж кашу варылі.

Ст. Шушкевіч

## -А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А-



Каб даведацца, што намалявана на гэтай карцінцы, размалюйце так: палі з 1 — сінім колерам, 2 — жоўтым, 3 — зялёным, 4 — карычневым, 5 — чырвоным. Месцы, дзе няма лічбаў, — светла-блакітным ці ружовым, а плошчу пад нумарам 6 пакіньце белай.



Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

## СЛУП

У час будаўніцтва заводскага корпуса нечакана ўзнікла пытанне вакол яловага слупа. Хто яго паставіў там? Калі? Навошта? Ніхто не ведае. А ён стаіць сабе, як вартавы...

— Зараз жа прыбярыце гэтае палена. Ачысціце пляцоўку! — тонам загаду гаворыць начальнік субпадраднай арганізацыі.

— Ха! Яйка вучыць курыцу! — гаворыць генпадрадчык. — А ў праекце заказчыка ёсць раздзел аб пераносе слупа?

— Мы што — гаспадары слупа? — гарачыцца заказчык. — Ваш указ нам не закон.

— З-за гэтага няшчаснага бервяна ў нас гарыць дзяржаўны план! — кулаком па стале стукае субпадрадчык.

— У нас таксама! — паўтарае генпадрадчык.

Субпадрадчык першы не вытрымаў, тэрмінова адстукаў тэлеграму ў міністэрства: „З прычыны катэгарычнай адмовы трэста прыбраць драўляны слуп з будпляцоўкі коска спынены ўсе работы на будаўніцтве завода кропка прыміце тэрміновыя меры кропка“.

І закруцілася пісаніна. Былі падняты на ногі і дзесяткі адказных работнікаў.

А тым часам яловы слуп падгніў і ўпаў на зямлю.

Аднойчы ранкам важныя прадстаўнікі генпадрадчыка, субпадрадчыка і заказчыка ўбачылі гэта і... аслупянелі ў радасным здзіўленні.

**Уладзімір Кузьмін**







З чаго смяюцца суседзі.




ГУМАР З БАРАДОЮ

### КАМУ БЛІЖЭЙ

Жандар, у якога ўвесь твар быў у барадаўках, сказаў цырульніку: калі той яго паголіць і не зачэпіць ніводнай барадаўкі, пахваліць.

— Калі ж хоць трошкі зачэпіш! — павысіў голас жандар, — тады наракай на сябе!

І шматзначна паляпаў па пісталету.

Цырульнік пагаліў жандара, не парэзаўшы ніводнай барадаўкі.

— Як ты не баяўся мяне галіць? — спытаў жандар.

— Маёй брытве бліжэй да вашага горла, чым вам да пісталета, — спакойна адказаў цырульнік.

### ЗРАЗУМЕЎ

Егер: У гэтым возеры рыбу лавіць нельга!

Рыбак: А я і думаю, чаму ў мяне не клюе?

### ЁН І ЯНА

— Дарагі, лекар мне параіў падарожнічаць, — гаворыць жонка да мужа. — Куды мы адправімся?

— Да другога лекара, — адказаў муж.



*Made in Zadrypanka*

**Для свайго самага вялікага ворага ён капаў яму, натуральна, самую вялікую. Яна атрымалася такая глыбокая, што сам не змог з яе выбрацца..**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Пойдзеш брыгадзірам? — пытае старшыня калгаса Сымона.

— Не пацягну.

— А кавалём?

— Таксама не.

— Тады, можа, кладаўшчыком?

— О, там пацягну!

*

Пры праверцы білетаў кандуктар выявіў, што дарослы шатландзец едзе па дзіцячаму білету, і пачаў патрабаваць платы штрафу. Шатландзец наадрэз адмовіўся. Тады кандуктар у шаленстве схапіў чамадан шатландца і выкінуў у акно. Цягнік у гэты час ішоў па мосце праз раку.

— Вы канчаткова звар'яцелі! — закрычаў шатландзец. — Спачатку вам не спадабаўся мой білет, а затым вы ўтапілі майго брата!

### ПАРАДА

**Раз у сталоўцы за абедам**
**Сусед параіўся з суседам:**
**— Хоць сёння рады ў ЗАГС ісці,**
**Ды дзе нявесту мне знайсці?**
**— Вось дык дзівак!**
**Бяры японку,**
**Бо лепшую не знойдзеш жонку.**
**Яна хлусні не зразумее**
**І кімано пашыць умее.**
**Аддасць табе зарплату ўсю,**
**І пешча...**
**Аж на востраве Кюсю.**

**Уладзімір Мацвеенка**

З „Весніка Задрыпоніі“

### З УДЗЯЧНАСЦЮ

Просім перадаць шчырую ўдзячнасць канструктарам Крывалапскага тэлевізійнага завода за стварэнне мадэлі пераноснага тэлевізара. Цяпер мы лёгка перавозім партатыўны тэлевізар з адной майстэрні ў другую на гарадскім транспарце, не трацячыся на таксі.

### У СВЕЦЕ ЦУДОЎНАГА

— Гэта ж цудоўна! — любіць паўтараць кветкавод Гваздзікевіч, атрымліваючы грошы за кветкі.





**Алмаўляецца спускацца, гаворыць, што я не ўмею абыходзіцца з жанчынамі.**



— ... І які лік?




### ГОМАСАПІЕНС УРБАНЦЕ

Альберт Відэл, 38-гадовы амерыканскі артыст тры дні прасядзеў у заапарку. Не, не ў якасці наведвальніка, гледача, ці там служкі якога, а ў якасці самога што ні на ёсць зааэкспаната — добраахвотна дэманстраваў сам сябе, як новага прадстаўніка фауны. Каля яго клеткі вісела шыльда: гомасапіенс урбанце (гэта значыць, гарадскі). Ці трэба казаць пра тое, што асаблівага камфорту ў гэтым незвычайным пакоі (клетцы) для артыста не было. Там мелася толькі самае неабходнае ў побыце: невялічкі столік і канапа, люстра і ўмывальнік. Да таго ж яго пакой уяўляў нешта накшталт камунальнай кватэры: з ім разам тут знаходзіліся галапагоскія чарапахі.

### ПАЛЯВАННЕ

Зацемка ў правінцыяльнай англійскай газеце:

„Пазаўчора сэр Хартні з сябрамі паляваў на зайца. Ён пакінуў пасля сябе жонку, трое сыноў і зайца“.




**Мала ўмець трымацца ў цені, трэба яшчэ ведаць — у чыім.**